ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 359
Год выд. XXXVIII

Травень-Чэрвень
1989

## ВЯЛІКАДЗЯРЖАЎНЫ ШАВІНІЗМ НА БЕЛАРУСІ

**(Адказ «кандыдату і акадэміку» Пятру Петрыкаву)**

Беларускі савецкі гісторык Пётр Петрыкаў, аналізуючы ў газэце «Сов. Белоруссия» (26.IV.89) моўную праблему Беларусі, напісаў аб тым, дзе ня трэба шукаць ейных каранёў. «Карані цяперашняе моўнае сытуацыі ў БССР, — кажа ён, — трэба шукаць не ў прымусовай русыфікацыі і расейскім савецкім шавінізьме, якога ня было і няма». У чым карані «цяперашняе моўнае сытуацыі», дзе іх трэба шукаць, Петрыкаў — доктар гістарычных навук — так і не напісаў. Яму карцела заявіць на старонках «Сов. Белоруссии», што дамаганьне Беларусаў прызнаць беларускай мове статус дзяржаўнае мовы «не имеет под собой необходимых оснований».

Рэч у тым, што на Беларусі цяпер дамаганьні дзяржаўнага статусу для роднае мовы гучаць усё галасьней і шырэй у артыкулах, лістох у рэдакцыі, на сходах, мітынгах і дэманстрацыях. Сакратар Менскага гаркому партыі П. Краўчанка на сустрэчы з членам Палітбюро В. Мядзьведзевам у Менску на пачатку сакавіка сёлета і нядаўна ў «Настаўніцкай Газэце» (22.III) прызнае: «колькаснае назапашваньне нэгатыўных момантаў у сфэры нацыянальнай культуры і мовы не магло ня прывесьці да непазьбежнага абвастрэньня і эмацыянальнага 'выбуху' ў асяродзьдзі інтэлігенцыі. Іхні боль трэба зразумець і падзяліць».

Але Петрыкаву (усе гістарычныя працы якога, дарэчы, напісаныя па-расейску) боль за беларускую мову, відаць, чужы, і гісторык разам з газэтай «Советская Белоруссия» муціць ваду, каб якраз нельга было разгледзець тыя «карані моўнае сытуацыі», якія ён узяўся шукаць. Петрыкаў сваю здраду мове і справе ейнае абароны падмацоўвае спасылкай на Леніна: «В национальных отношениях, учил Ленин, лучше недосолить, чем пересолить». Паводля Петрыкава, гэта не «перасол», калі народ дажыўся да таго, што па гарадох ды мястэчках цэлай рэспублікі няма ніводнае школы зь беларускаю моваю навучаньня.

Але мы таксама чытаем Леніна і ведаем ягоныя выказваньні пра вялікадзяржаўны шавінізм, супраць якога і Ленін пратэставаў і кампартыя сваім часам пастановы прыймала. Супраць яго ў сярэдзіне 1920-х гадоў пісаў і Янка Купала свае палымяныя вершы, што данядаўна былі яшчэ пад забаронай у БССР. У вершы «Акоў паломаных жандар» (з падзагалоўкам: «На палеміку ў 'Савецкай Беларусі'», якая ў 1926 г. выходзіла яшчэ пабеларуску) Купала пісаў:

Акоў паломаных жандар,
Сьлюнёй зарыўшыся ў нару,
Сядзіць расейскі чынадрал,
«Слуга ацечаству, цару».
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ён, гэты сьКінуты сатрап,
Ня знае, што ў свабодзе жыць;
Яму дай вісельню, дый каб
На ёй «языкі» ўсе ўшчаміць.

Не па нутру, як сьмерць, яму,
Што беларускае дзіцё
Бяжыць у сцюжую зіму
У школу пазнаваць жыцьцё.

Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх,
Напоўадзеты вёскі сын,
У роднай мове ўчыцца змог?
О, стыдна, рускі «гражданін»!

Чыталі калі-небудзь гэты Купалаў верш, таварыш Петрыкаў?.. А можа ведаеце цяперашнюю статыстыку: колькі беларускіх дзяцей пазнаюць жыцьцё ў школе ў роднай мове?

Вартаўнікі імпэрыі, і царскае і савецкае, заўсёды баяліся, што карані сэпаратызму, сэцэсія, «адзьдзяленьне ад Саюзу» тояцца ў нацыянальнай сьведамасьці, нацыянальнай мове. У Васіля Быкава ёсьць адзін такі пэрсанаж, які свайму землякі ў войску на пытаньне, чаму-ж ён раней ня прызнаўся, што ён — Беларус, адказвае: «Каб не адзьдзяляцца»...

Петрыкаў цытуе Леніна, каб хаця «не перасаліць» цяпер у справе звароту Беларусам адабранае ад іх роднае мовы. Але Ленін пісаў і гэткае: «Калі Фінляндыя, калі Польшча, Украіна адзьдзеляцца ад Расеі, у гэтым нічога благога няма. Што тут благога? Хто гэта скажа, той шавініст». Дык хто сёньня вялікадзяржаўны шавініст у БССР: той, хто за дзяржаўнасьць беларускае мовы, ці той, хто супраць?

Наяўнасьць расейскага шавінізму на Беларусі пацьвярджаецца ня толькі тым, што пісаў Ленін і супраць чаго выступаў Купала, а й тым, што пішуць нашы сучасьнікі. Прыкладам, народны паэт Пімен Панчанка. Панчанка хоць і не тытуляваны акадэмік, але ў прыродзе моўных «каранёў» разьбіраецца.

*(Працяг на 2-й б.)*

## АПУБЛІКАВАНАЯ ПРАГРАМА БНФ

У трох нумарох самвыдавецкага бюлетэню «НАВІНЫ Беларускага Народнага Фронту за Перабудову 'Адраджэньне'» (№ 2'1988, 2/4'1989 і 3'1989) апублікаваныя Матар'ялы да праекту Праграмы БНФ. Матар'ялы складаюцца з разьдзелаў: Прадмова. Сувэрэнітэт. Дэмакратыя. Правы чалавека. Эканоміка. Сацыяльная справядлівасьць. Ахова здароўя. Экалёгія. Этыка і маральнасьць. Рэлігія. Нацыянальнае пытаньне. Мова. Культура. Адукацыя й навука.

Уплывовы брытанскі каталіцкі часапіс The Tablet (29.IV.89) даволі дакладна пераказаў разьдзел праграмы БНФ аб рэлігіі.

**Сяргей Законьнікаў**

## Страх

*Беце камень, беце,*
*Агню даставайце.*
**З народнай песьні.**

Хоць выйшлі на сьвятло з глухіх
скляпеньняў,
Але яшчэ адкрыць баімся вочы.
З палёгкай выціснуць з душы
здранцьвеньне
І рабскую пакорлівасьць ня хочам.

Такія мы. На гэта ёсьць прычына —
Жылі ў краіне лагернай, астрожнай,
Жывёльны страх перад плюгавым
чынам
Зьвіваў сабе гняздо ў крывінцы
кожнай.

Стаў нацыяналізм тутэйшай тэмай,
Як шуфлем, лепшых пад яго гарнулі,
Пяклі з даносаў справы на
«нацдэмаў»,
Дзе кропку у канцы стаўляла куля.

А зьверху над цівунскім, хіжым
збродам
Стаяў «наш бацька» самай строгай
вартай.
Ён ня людзей, а цэлыя народы
Зьнішчаў ці тасаваў, як шулер,
карты.

І чорны воран баляваў начамі,
Ён каркаў і вучыў усіх бяз стомы,
Што можна выйсьці ў «людзі»,
у «начальства»
Цаною здрады самаму сьвятому.

Сваімі крыламі ў крыві пялёхаў,
Іх разьвінаў над лёсамі з размахам.
І так дзядоў, бацькоў ён запалохаў,
Што праўнукам яшчэ дрыжаць ад
страху.

Ды вось глыток жаданае свабоды,
Свабоды мудрых думак, творчай
працы.
І кожны можа для свайго народа,
Для будучыні нашай пастарацца.

Рабочыя, сяляне, інжынеры,
Вучоныя, настаўнікі, паэты —
Мы ўсе адна сям'я з высокай верай...
Калі-ж, нарэшце, зразумеем гэта?

Зноў дзеляць нас на чыстых і
нячыстых,
Запрэгчы хочуць у старую збрую.
Ня толькі ў сквэрах з кульбай —
сталіністы,
Яны яшчэ і судзяць, і кіруюць.

А зь імі тыя, хто ў сваё карыта
Дабро піхаў, каб аж падняўся коптур,
Хто кроў смактаў зь дзяржавы і
адкрыта
Ёй гандляваў у розніцу і оптам.

І чорны крук не адляцеў далёка,
(А век у гругана гадоў пад трыста!),
Глядзіць, глядзіць сваім крывавым
вокам,
Дзе ў зрэнцы помста сьвеціцца
агніста.

Хто праўду скажа, тым — праклён,
пагрозы.
Хай далей пад дуду былую скачуць!..
Калі памёр тыран, ліліся сьлёзы...
Чаму па мове, мой народ, ня плачаш?

Чаму ня скажаш: «Патрабую школы
Вярнуць, і ўсё, што зь імі заняпала.
Каб годна, вольна ў гарадох і сёлах
Маё сьвятое слова загучала»?

Чаму ня хочаш з крыўдаю змагацца
І галаву ўгінаеш моўчкі ў плечы,
Калі зямлю — на ўсе вякі багацце —
Дачасьнікі і труцяць, і калечаць?

Чаму не разумееш і дагэтуль,
Што ловішся на простую нажыўку,
Калі табе з чыноўных кабінэтаў
Даюць падпісваць зжоўклую
фальшыўку?

Ты столькі вынес і пакут, і гора,
Што заслужыў навечна назаўсёды
Мець лёс не нарыхтоўчае канторы,
А роўнага між роўнымі народа.

Сыноў, што зь вераю жыцьцё вянчалі,
Ці-ж мала Беларусь узгадавала?
Стаяць, як знак ахоўны, за плячамі
Скарына, Каліноўскі і Купала.

Народ мой, слухай голас іх прарочы,
Ён не дарма трывожыць гаркатою.
Прачніся, адкрывай шырока вочы,
І не асьлепіць праўдаю крутою.

Калі-ж і зараз ты не загукаеш,
А будзеш жыць пад страхам і
прынукай,
Чарнобыль не такі яшчэ чакае
Тваю зямлю
тваіх дзяцей
і ўнукаў...

*(З паэмы «Чорная быль», **«ЛіМ»**, 21.IV.89)*

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У НЬЮ-ЁРКУ

**9-15 ліпеня 1989 г.**

**Праграма**

**Нядзеля, 9 ліпеня:**

9:00 гадз. ўраньні — Збор групаў на 59 вул. і 5 авэню.

10:00 гадз. — Багаслужба ў катэдры Сьв. Партыка.

11:00 гадз. — Шэсьце па 5 авэню да 72 вул. ў Цэнтральны парк.

12:00 гадз. пабдня — Афіцыйнае адчыненьне тыдня. Мастацкія паказы.

**Чацьвер, 13 ліпеня:**

11:00 гадз. ўраньні — Дэманстрацыя за Свабоду перад Аб'еднанымі Нацыямі (42 вул. і 1 авэню).

**Сыбота, 15 ліпеня:**

3:00 гадз. пап. — Цырымонія зачыненьня ў Нямецкай Евангельска-лютэранскай царкве ў Брукліне (125-131 henry St.; subway: Borough Hall, # 4, 5, R, N; Ckark St., # 2 or 3). Пачастунак.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ВЯЛІКАДЗЯРЖАЎНЫ ШАВІНІЗМ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

Вось ён і піша ў газэце «Літаратура і Мастацтва» (якое, відаць, Петрыкаў ня чытае; нумар за 7 красавіка 1989 г.):

«Дык чаму-ж амаль зьніклі наша мова, нашы школы, наша культура?

«Па першае, не памёр вялікадзяржаўны шавінізм. Гены вялікадзяржаўнай зьнявагі ўсяго беларускага пераходзяць ва ўсё новыя і новыя пакаленьні чыноўнікаў (у тым ліку й чыноўнікаў ад гістарыяграфіі! — Я. З.). Часам гэтаму, як ні дзіўна, дапамагаюць рускія савецкія пісьменьнікі. Адзін сучасны мудрагеліста маскоўскі паэт нядаўна пісаў: 'В древнем русском городе Витебске жил великий художник Шагал'. Ня менш вядомы маскоўскі празаік сьцьвярджае ў адным са сваіх твораў: 'Белорусы — те же русские'».

Вось да гэткіх «мудрагелаў» і Петрыкаў належыць. Заявіўшы, што расейскага савецкага шавінізму на Беларусі «не было и нет», ён тут-жа піша далей: «*Без России у Белоруссии нет прошлого* (падкрэсьленьне наша — Я. З.), без Советской России у БССР нет настоящего и невозможно будущее».

Ня будзем займаца будучыняй, гуляць у футуралёгію. Пагаварэм пра гісторыю, пра мінуўшчыну ды пра інтэлектуальны (дый маральны) маразм, да якога скаціліся функцыянеры тыпу Петрыкава (якіх, на жаль, у Беларусі-Вандэі сёньня поўна яшчэ на адказных становішчах і ў партыі, і ў акадэмічным сьвеце, і ў органах друку).

«Без России у Белоруссии нет прошлого...» Як такую дурніну можа пісаць «доктар гістарычных навук»?! Нават прачытаўшы казённую «гісторыю БССР» ды прыклаўшы крышку розуму, можна пабачыць, што Беларусь ад пачаткаў Вялікага Княства Літоўскага ў XIII ст. да другое палавіны XVIII ст., разьвівалася асобна ад Маскоўшчыны, якую Пётра Першы назваў Расеяй. Петрыкаў, які сваю кар'еру зрабіў на тэме «Советы депутатов трудящихся БССР и их роль в создании материально-технической базы коммунизма», відаць, ня меў часу зазірнуць у мінуўшчыну глыбей як 1917 год, ня было калі. Пра гэткіх «вучоных» у аднаго з сучасных паэтаў Беларусі ёсьць добры верш:

**Кандыдатам і акадэмікам**

Ці ня сьніўся вам просты, як ісьціна
сон, хоць зрэдку, ну, хоць аднойчы:
вам дазволілі зь целаў выпаўзьці
і самым сабе глянуць у вочы, —

віртуозы сьлінявай палемікі,
ад якой прасьмярдзелі скрыжалі,
кандыдаты і акадэмікі,
што вучонымі так і ня сталі.

(Зьніч. ***Рэха малітвы.*** Вершы зь Беларусі. Выд. «Беларус», Нью-Ёрк, 1988)

Але вярнемся ад паэзіі да вучоных, да запраўдных вучоных.

Цяпер у Савецкім Саюзе ідуць рыхтаваньні да пленуму ЦК КПСС, што будзе прысьвечаны нацыянальным пытаньням. Пасьля эканамічнае — нацыянальная найбольш пільная і найбольш выбуховая праблема.

У часапісе «Вопросы истории КПСС» (№ 4, 1989) зьмешчаны вялікі матар'ял «круглага стала» пад заг. «Нацыянальныя дачыненьні ў СССР: досьвед гісторыі і сучаснасьць». Вось гаворыць расейскі гісторык В. Г. Чабатарова, таксама доктар гістарычных навукаў, але асоба сумленная і бяз комплексу нацыянальнага халуйства: «У нас, — кажа яна, — выйшаў свайго роду перакос. Калі вучоны належыць да нейкае карэннае нацыянальнасьці, ён у сваёй працы толькі зьлёгку кранецца тэмы змаганьня зь мясцовым нацыяналізмам і ў ніякім выпадку не закране пытаньня аб змаганьні зь вялікадзяржаўным шавінізмам». Гэта пра Петрыкава і да яго падобных!

За тым-жа «круглым сталом» гісторык Чабатарова зазначыла: «Трэба сказаць таксама і аб тым, якую нэгатыўную ролю адыграла сталінская канцэпцыя аб расейскім народзе як 'старэйшым браце' і г.д. ... Мне ўяўляецца, кожны народ вялікі, кожны зрабіў уклад у сусьветную культуру. Уважаю, што гэткі падыход трэба праводзіць ува ўсіх публікацыях».

Але-ж, трэба! Ды ў сёньняшняй антыперабудовачнай Вандэі ў чыноўніцкіх крэслах і шмат дзе за рэдактарскімі сталамі сядзяць закамплексаваныя «малодшыя браты», у публічных выступленьнях якіх пераважаюць ноткі каньюнктуршчыны.

Характарызуючы сучаснае палажэньне ў БССР, Зянон Пазьняк, старшыня «Мартыралёгу Беларусі», якога людзі назвалі «голасам сумленьня» свайго краю, сказаў унікліва й сьмела: «Я расцэньваю сёньняшнюю сытуацыю ў рэспубліцы як крызісную. 'Лідэры' ужо даўно засьветчылі сябе як палітычныя банкроты, дзеля гэтага бязь зьмены асобаў у кіраўніцтве рэспублікі перабудова далей не пойдзе». Гэта словы Пазьняка латыскай расейскамоўнай газэце «Советская Молодежь» (20.IV.89). «Советская Белоруссия» гэткага выказваньня ня зьмесьціць. Яна друкуе інтэлектуальную муць Пятра Пётрыкава...

**Янка Запруднік**

### *АБМЕН ПОМНІКАМІ*
### Скарыну — у Кракаве, Манюшку — у Менску

Намесьнік міністра культуры БССР Уладзімер Рылатка сказаў карэспандэнту БЕЛТА, гаворачы пра Дні польскай культуры, што плянаваліся на 19-29 красавіка ў Менску: «Мы цяпер абмяркоўваем плян ўзьвядзеньня ў нашых рэспубліках помнікаў — Палякі хочуць паставіць у Менску Манюшку, а мы ў Кракаве — Скарыну». («Зьвязда», 18.IV.89)

# 32-ГІ АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗГУРТАВАНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

27 травеня 1989 г. ў Таронце ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры адбыўся 32-гі агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК).

Перад пачаткам зьезду Архіепіскап БАПЦ Мікалай адслужыў у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага малебен за памысьнасьць зьезду.

Адкрыла нарады старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч. Мандатная Камісія ў складзе сп. сп. В. Навіцкага, М. Ганька й сп-ні Ю. Грыцук-Мэкарскае, праверыўшы мандаты, прызнала зьезд правамоцным. Прэзыдыюм зьезду быў выбраны ў тым-жа складзе.

Із справаздачаў выявілася, што два гады апошняе кадэнцыі былі надзвычай актыўныя. У 1987 г. быў наладжаны сымпозіюм на тэму «Трагедыя Беларусі ў выніку чарнобыльскай ядзернай катастрофы». ЗБК брала ўдзел у дэманстрацыі «Дня чорнае істужкі» ў Таронце й Атаве — угодкі сталінска-гітлераўскага пакту. Адзначанае было 100-годзьдзе ад нараджэньня Алеся Гаруна й 125-годзьдзе «Мужыцкае Праўды». У 1988 г. быў пабудованы ў прошлы ў Мідляньдзе на адзначэньне 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі Беларускі Крыж; супольна з БАЗА была зарганізаваная 18-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Вынікам рыхтаваньня Сустрэчы БПА сталася канфэрэнцыя прадстаўнікоў Беларусаў Канады, што адбылася 18-19 сакавіка 1989 г. ў Таронце.

Зьезд выказаў кіруючым і кантрольным органам ЗБК абсалютоным з падзякай.

У прынятым пляне працы ёсьць і такія пункты: браць удзел у падрыхтоўцы да перапісу насельніцтва Канады ў 1991 г.; памагаць у пабудове помніка Кастусю Каліноўскаму на Бацькаўшчыне гэроя; памагаць у пабудове беларускага ліцэю ў Гайнаўцы; заснаваць супольна з БАЗА літаратурны Фонд імя Францішка Багушэвіча, 150-я ўгодкі ад нараджэньня якога прыпадаюць на 1990 год.

У Галоўную Управу ЗБК былі выбраныя: сп. Мікола Ганько — старшыня, сп-ня Ю. Грыцук-Мэкарская, і сп. сп. Б. Кірка, В. Касьцюкевіч, В. Навіцкі, С. Прахарук, Л. Паплаўскі. У Наглядную Раду ўвайшлі сп. К. Акула й сп. А. Маркевіч. У Сяброўскі Суд — сп-ні О. Грыцук і Л. Рагуля.

Зьезд закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасьля зьезду адбылася вечарынка, прыбытак зь якое прызначаны на пабудову беларускага ліцэю ў Гайнаўцы. У гэткі спосаб сябры ЗБК хацелі адзначыць 40-я ўгодкі свае арганізацыі (першы зьезд ЗБК адбыўся 28 травеня 1949 г. ў Таронце). У часе сяброўскага вечару было выражанае прызнаньне й пашана закладчыку ЗБК сп. Кастусю Акулу і тым, хто зь ім пачынаў арганізацыю. Сп. Акула падзяліўся ўспамінамі з тых часоў, прыгадаў супольныя высілкі, надзеі й рашчараваньняў, няўдачы й посьпехі.

Былы старшыня ЗБК др. Раіса Жук-Грышкевіч прывітала беларускага пісьменьніка й закладчыка ЗБК, пажадала яму багатых плёнаў у працы як на літаратурнай, гэтак і на грамадзкай ніве, ды ўручыла яму ад ЗБК на добры ўспамін малюнак «Руіны Навагрудзкага замку» выкананьня мастачкі Івонкі Сурвіла. Прамаўляў і нowавыбраны старшыня ЗБК сп. Мікола Ганько.

Сьвяткаваньне 40-годзьдзя ЗБК закончылася ў нядзелю, калі ў часе сьв. Літургіі маліліся мы за здароўе ягонага закладчыка ды за спорныя й многія гады Згуртаваньню Беларусаў Канады.

**Р. Жук-Грышкевіч**

## *АСЬВЕТЧАНЬНЕ*
## БЕЛАРУСКАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ АЎСТРАЛІІ

Бяручы пад увагу тыя падзеі, якія ў цяперашнім часе адбываюцца ў краіне нашага паходжаньня — Беларусі, дзе Беларускі народ змагаецца за лепшыя і большыя, асабістыя і нацыянальныя правы, найстарэйшая ў Аўстраліі, ведамая і актыўная арганізацыя Аўстралійцаў беларускага паходжаньня, Беларускае Аб'еднаньне Аўстраліі, хоча падаць да ведама наступнае:

1. Мы, Аўстралійцы беларускага паходжаньня, цешымся і глыбока цэнім пануючую ў Аўстраліі свабоду, якая дазваляе нам, паміж іншага, утрымваць і перадаваць новым пакаленьням беларускія абычаі, мову, культуру й г.д.

2. Мы, Аўстралійцы беларускага паходжаньня, моцна асуджаем расейскія камуністычныя рэжымы, якія брутальна праводзілі палітыку русыфікацыі Беларусі праз масавае фізычнае вынішчаньне Беларускага народу (нядаўна адкрытыя масавыя магілы ў Курапатах ля сталіцы Беларусі, Менску, — адзін з дадатковых доказаў гэтай палітыкі генацыду), масавыя дэпартацыі, зьліквідаваньне Беларускай мовы ўва ўрадавых і навучальных установах і г.д.

3. Беларускае Аб'еднаньне Аўстраліі поўсьцю падтрымоўвае змаганьне Беларускага народу за тыя правы асабістай свабоды і нацыянальнай незалежнасьці, якія быццам-бы гарантуюцца самой Канстытуцыяй Савецкага Саюзу і прызнаюцца Арганізацыяй Аб'еднаных Нацыяў, у якую Беларусь уваходзіць як незалежная краіна.

4. Беларускае Аб'еднаньне Аўстраліі заклікае ўрад Савецкага Саюзу прысьпешыць ход аднаўленьня волі і незалежнасьці Беларусі, так як і ўсіх іншых народаў пад кантролем Савецкага Саюзу, з тым, каб запэўніць, што яны таксама будуць цешыцца свабодай у будучыні — так як і мы заўсёды цешыліся свабодай тут, у нашай краіне Аўстраліі.

**А. Алехнік,**
**Генэральны Сакратар БАА**

### НОВЫЯ КОНСУЛЬСТВЫ Ў МЕНСКУ?

**БССР далучылася да Венскае канвэнцыі аб консульскіх сувязях, што была прынятая 24 красавіка 1963 году. Паводле прадстаўніка Міністэрства замежных справаў БССР М. Хвастова, гэты крок прадыктаваны «пашырэньнем вонкавых сувязяў і перш-наперш — гандлёва-эканамічных, ростам ліку замежных грамадзянаў, што прыбываюць да нас у дзелавых, навуковых, культурных і прыватных справах, збольшаньнем падарожжаў грамадзянаў БССР за рубеж». («Сельская Газета», 3.III.89)**

**Тымчасам у Менску ёсьць толькі адно консульства — Польскае Народнае Рэспублікі.**

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*(Гл. таксама ў папярэднім нумары)*

## ЯШЧЭ ПРА МЕНСК

Паводля парыскае газэты «Русская Мысль» (7.IV), на незалежніцкую дэманстрацыю студэнтаў у Менску, што адбылася 25 сакавіка, напала міліцыя, былі параненыя, каля 100 асобаў былі затрыманыя й аштрафаваныя на сумы ад 100 да 50 рублёў. Арганізатар мітынгу адседзеў пад арыштам пяць сутак, на яго заведзеная крымінальная справа.

Таго-ж самага дня міліцыя пад выдуманай прычынай шуканьня ўзрыўчаткі правяла вобшук у рабочым кабінэце літаратурнага кансультанта Саюзу Пісьменьнікаў Алеся Емельянава, аднага зь сяброў Арганізацыйнага Камітэту Беларускага Народнага Фронту, і забрала колькі тысячаў непадцэнзурнага выданьня Аргкамітэту «Навіны».

## КЛІЎЛЕНД, ЗША

Урачыстае адзначэньне 71-х угодкаў абвешчаньня Беларускай Народнай Рэспублікі адбылося ў нядзелю 2 красавіка. У царкве Жыровіцкае Божае Маці настаяцель прат. а. Міхась Страпко з новым сьвятаром іераманахам Якубам адправілі пасьля Сьв. Літургіі малебен за Беларускі народ у прысутнасьці вялікай колькасьці вернікаў і сьцяжной варты. Айцец Якуб сказаў патрыятычную казань прысьвечаную дню незалежнасьці, заклікаў працягваць нацыянальную справу і падтрымаць змаганьне Беларусаў на Бацькаўшчыне.

Адбыўся ў царкоўнай залі супольны абед з акадэміяй, якая пачалася супольным адсьпяваньнем амэрыканскага гімну. Старшыня адзьдзелу БАЗА Янка Ханенка прывітаў усіх з угодкамі незалежнасьці, падкрэсьліўшы, што гэтае сьвяткаваньне адбываецца ў часе, калі на Бацькаўшчыне Беларусы змагаюцца за свае правы й дзяржаўнасьць. Затым прадставіў сп-ню Олю МакДэрмот (Дубаневіч), якая добра правяла праграму.

Сп. Аўгуст Пуст, прадстаўнік мэра гораду Кліўленду, прачытаў праклямацыю, прывітаў з днём незалежнасьці ды паведаміў, што ў гэты дзень беларускі сьцяг вывешаны над гарадзкой ратушай, і пажадаў удачаў у адраджэньні незалежнасьці. Былі прачытаныя таксама праклямацыя ад губэрнатара штату Агаё Цэлеста, прывітаньне ад сэнатара Глена, ад Нацыянальнага Кіраўніцтва Рэспубліканскіх Арганізацыяў з Вашынгтону, а таксама ад беларускіх арганізацыяў: Галоўнаў Управы БАЗА, адзьдзелу БАЗА Нью-Джэрзы, Нью-Ёрку, Беларускага Каардынацыйнага К-ту ў Чыкага, Сьвяткавальнага К-ту ў Лёс-Анджэлесе і Беларускае рэдакцыі радыё Ватыкану.

Галоўным прамоўцам быў др. Вітаўт Кіпель зь Нью-Джэрзы, які вельмі добра перадаў зьмест выданай паанглельску кніжкі «Беларуская дзяржаўнасьць», што насьвятляе гісторыю станаўленьня БНР. Прамова была выслухана зь вялікім зацікаўленьнем.

У мастацкай частцы жаночы хор «Васілёк» цудоўна выканаў песьні: «Люблю наш край», «Я ад вас далёка» і «Роднае слова». Праграма закончылася нацыянальным гімнам. Сёлетняе сьвяткаваньне ўгодкаў Незалежнасьці прайшло ў больш бадзёрым настроі, бо й Беларусы на Бацькаўшчыне вядуць цяпер шырокае змаганьне за сваю мову, культуру, гісторыю й за сваю дзяржаўнасьць.

**К. П.**

## ВІЛЬМІНГТОН, ЗША

У нядзелю 26 сакавіка прыгожая сьвятыня Ўкраінскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Вільмінгтоне ў штаце Дэлявэр была запоўненая вернікамі. Да парафіі, апрача Ўкраінцаў, належаць таксама людзі іншых нацыянальнасьцяў, у тым ліку й Беларусы. Тыдзень перад тым настаяцель прат. Паўло Грынішын абвесьціў, што 26-га будзе адслужаны малебен за Беларускі народ з нагоды 71-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі і заклікаў усіх узяць удзел у гэтай урачыстасьці. У дзень сьвята ў перапоўненай царкве цудоўна сьпяваў хор пад кіраўніцтвам праф. музыкі Сяргея Кавальчука. Людзі шчыра маліліся за Беларусь і лепшую долю для яе.

## САЎТ-РЫВЭР, Н.-ДЖ., ЗША

У сыботу 8 красавіка на мачце каля гарадзкой управы зашугаў бел-чырвона-белы сьцяг.

У нядзелю 9 красавіка ў царкве імя Сьв. Ефрасіньні Полацкай, а. Канстантын Бандарук, які замяняў выехаўшага ў Эўропу настаяцеля Саўтрывэрскай царквы Мячыслава Брынкевіча, адслужыў малебен за Беларускі народ. У часе малебну беларускія вэтэраны трымалі амэрыканскі і беларускі сьцягі. Папаўдні ў залі Беларускага Цэнтру адбылася ўрачыстая акадэмія, якую адчыніў і праводзіў інж. Міхась Бахар. Зьместоўны даклад у ангельскай мове прачытаў студэнт інжынернага факультэту Ратгерскага Ўнівэрсытэту Аляксандар Касоўскі.

Пабеларуску даклад прачытаў паэт Янка Золак.

Міхась Бахар зачытаў надасланыя праклямацыі Дня Беларускай Незалежнасьці ды прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў у Нью-Ёрку, Чыкага, Каліфорніі, Лёндане, Мюнхэне і інш. асяродках.

У мастацкай частцы выступілі паэты: М. Сяднёў, М. Кавыль, Я. Золак і Віла Саўчук. Зь невялікай прамовай выступіў сп. Аляксей Сянькевіч.

Пасьля адсьпяваньня беларускага гімну, Міхась Бахар запрасіў прысутных на «гарбату». Пад гукі беларускіх песьняў з кружэлак шматлікія госьці дзяліліся апошнімі навінамі зь Беларусі, дзе адбываецца цяпер шмат драматычнага і абнадзейвальнага.

**М. К.**

## ЛЁС-АНДЖЭЛЕС, ЗША

Адзначэньне 71-х угодкаў Незалежнасьці, арганізаванае Сьвяткавальным Камітэтам, адбылося 19 сакавіка ў парафіяльнай залі ўкраінскай каталіцкай царквы ў Галівудзе. Адкрыў урачыстасьць сп. Ч. Найдзюк. Былі адыграныя амэрыканскі гімн і малітва «Магутны Божа» з ушанаваньнем памяці памерлых патрыётаў і асобным успамінам пра сьв. пам. др. В. Жук-Грышкевіча. Сп. К. Вайцяхоўскі прачытаў прывітаньні ад губэрнатара штату Каліфорніі й ад штатавага сэнатара Робэрта Бэвэрлі. Прывітаньні прыслалі таксама кангрэсмэн Дан Рорабахэр і старшыня Нацыянальнай Рады Групаў Этнічнай Спадчыны Рэспубліканскай партыі сп-ня Анна Шэнольт. Англамоўныя прывітаньні былі атрыманыя на просьбу каліфарнійскага адзьдзелу Беларуска-Рэспубліканскага Клюбу. Прывітаньні пабеларуску прачытаў сп. Найдзюк: ад Беларускага Кангрэсавага К-ту Амэрыкі, Беларускай сэкцыі радыё Ватыкану, адзьдзелу БАЗА ў Кліўленьдзе, Бел. Аб'еднаньня ў Зах. Аўстраліі й сп. Язэпа Ціпка. Пазьней былі атрыманыя таксама прывітаньні ад ГУ БАЗА, Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў і Беларускага Каардынацыйнага К-ту ў Чыкага.

Сп-чна Каця Вініцкая з пачуцьцём прачытала верш сьв. пам. Віктара Рудчыка «Беларусь на расьпяцьці», а сп. Я. Арцюх падзяліўся разважаньнямі на тэму ўгодкаў і ўспамінамі пра Сустрэчу ў Канадзе. Быў прадэманстраваны зроблены ім запіс тэлевізійных вестак пра ахвяры ў Курапатах. Інфармацыю пра Курапаты дапоўніў сп. Найдзюк і расказаў таксама пра Беларусаў Вільні. Сп. К. В. падзяліўся ўражаньнямі ад свайго наведаньня Савецкага Саюзу. Урачыстасьць закончылася беларускім гімнам. Адбыўся супольны пачастунак. Новым удзельнікам сьвяткаваньня быў сп. Нік Манцывода. Урачыстасьць пакінула па сабе вельмі добрае ўражаньне.

У часе сьвяткаваньня рэклямавалася англамоўная кніга сп-тва Вітаўта й Зоры Кіпеляў пра беларускую дзяржаўнасьць ды раздаваліся адбіткі артыкулаў А. Барскага й С. Яновіча з газэты «Ніва» пра іхныя падарожжы па Амэрыцы ды сустрэчы з амэрыканскімі Беларусамі.

## ЛЁНДАН, АНГЕЛЬШЧЫНА

Угодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР Беларусы Лёндану адзначылі ў сыботу 1 красавіка ў залі Беларускае Бібліятэкі імя Ф. Скарыны. Урачыстасьць, якую арганізавала ГУ ЗБВБ, адчыніў сп. А. Зданковіч, заступнік старшыні ЗБВБ. Вітаючы прысутных з днём угодкаў, ён прывітаў таксама старшыню ЗБВБ сп. Янку Міхалюка й сп-ню Міхалюк са шчасьлівым зваротам з падарожжа ў Паўдзённую Афрыку, дзе яны гасьцілі ў свайго старэйшага сына. Прысутныя ўшанавалі памяць др. В. Жук-Грышкевіча, заснавальніка ЗБВБ і першага старшыні Згуртаваньня. Былі адчытаныя прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў у Бэльгіі, Зах. Нямеччыне, Італіі, ЗША.

Сп. А. Здановіч зрабіў агляд гістарычных падзеяў пэрыяду беларускае дзяржаўнасьці, пазьнейшае пары заняпаду ды нацыянальна-адраджэнскага руху ў 1917-1918 гадох.

Сп-чна Вера Рыч прамаўляла на тэму чарнобыльскае аварыі, адзначыўшы ўплыў гэтага здарэньня на працэс галоснасьці й адраджэньне нацыянальнай сьведамасьці Беларусаў.

Выказваючы падзяку сп-чні Веры Рыч, А. Здановіч адзначыў ейную шматгадовую працу на дабро белрускай культуры і вялікія дасягненьні ў гэтай галіне, штó было пацьверджана гучнымі воплескамі.

З красамоўнай прамовай на тэму дня выступіў сп. Гай Пікарда (гл. тэкст ягонага выступленьня ў іншым месцы гэтага нумару). Сп. Пікарду, станоўкаму абаронцу беларускіх інтарэсаў, сп. Здановіч выказаў шчырую падзяку.

Пра сучасны стан на Беларусі падзяліўся сваймі меркаваньнямі сп. Я. Сяўковіч, сакратар ЗБВБ, паінфармаваў аб просьбе з Бацькаўшчыны значкоў «Пагоні», якія цяпер там вельмі папулярныя і якіх нестае.

Сп. Я. Міхалюк прывітаў а. Аляксандра Надсона з атрыманьнем 17 студзеня сёлета ад Папы Рымскага назначэньня дараднікам Кангрэгацыі для Ўсходніх Цэркваў, а таксама заклікаў скласьці ахвяры на «Дар Сакавіка», на пакрыцьцё коштаў беларускага выдавецтва ды падкрэсьліў важнасьць выдадзенае нядаўна ў апрацаваньні сп-тва В. і З. Кіпеляў англамоўнае кнігі «Беларуская Дзяржаўнасьць».

Урачыстасьць закончылася нацыянальным гімнам, пасьля чаго быў пачастунак, у часе якога віталі сп. Я. Сяўковіча з днём нарадзінаў. На «Дар Сакавіка» было сабрана 120 фунтаў.

**А. З.**

## МЭЛЬБУРН, АЎСТРАЛІЯ

Сёлета, як і ранейшымі гадамі, угодкі 25 Сакавіка былі адзначаныя супольна Беларускім Цэнтральным К-там і парафіяй БАПЦ. У нядзелю 2 красавіка вернікам пры ўваходзе ў царкву прышпіляліся нацыянальныя сьцяжкі. Настаяцель царквы а. А. Кулакоўскі адслужыў малебен за ўсіх змагароў Беларусі, сказаў зьмястоўную пропаведзь. Малебен закончыўся малітвай «Магутны Божа».

У прыцаркоўнай залі, пры застаўленых сталох, адбылася другая частка ўрачыстасьці. Пасьля кароткай уступной прамовы а. Кулакоўскага сп. У. Сідлярэвіч, старшыня БЦК, гаварыў пра вызвольнае змаганьне Беларусаў, прачытаў атрыманыя прывітаньні ад Прэзыдэнта БЦР, Беларускай Фэдэральнай Рады ў Аўстраліі, Аб'еднаньня беларусаў у Пн. Аўстраліі ды Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. Сп. М. Нікан прывітаў прысутных ад імя Старшыні Рады БНР др. Я. Сажыча ды заклікаў да далейшай згоднай супольнай працы.

Сп. П. Гуз прачытаў цікавы рэфэрат на тэму дня. Прамаўляў таксама сп. Я. Ясіловіч.

У мастацкай частцы мяшаны квартэт выканаў дзьве беларускія народныя песьні, а мастацкі гурток «Каліна» (6 асобаў у нацыянальнай вопратцы) прапяяў таксама дзьве народныя песьні, канчаючы ўлюбёнай усімі «Люблю наш край» (пад гучныя воплескі). Афіцыйная частка закончылася гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Адбыўся супольны пачастунак, у часе якога сп. М. Скабей прачытаў зь «Беларуса» прамову Сакрата Яновіча на сустрэчы Беларусаў у Таронце ў 1988 годзе, а сп. М. Нікан нагадаў прысутным пра беларускія выданьні й захвоціў да набываньня іх.

**М. Н.**

## СЫДНЭЙ, АЎСТРАЛІЯ

Сьвята Дзяржаўнасьці было адзначанае ў нядзелю 2 красавіка. Як ужо ўвайшло ў традыцыю, у Бэнкстаўнскай праваслаўнай царкве пасьля сьв. Літургіі а. Віньямін адслужыў малебен за Беларускі народ ды паніхіду за «замучаных і забітых, што змагаліся за свабоду й веру нашага народу». Далей урачыстасьць працягвалася ў залі Беларускага Культурна-грамадзкага Клюбу ў Файрфільдзе. Акадэмію адкрыў кароткім словам старшыня клюбу М. Л. Быў адыграны гімн «Магутны Божа», зачытаныя прывітальныя лісты й тэлеграмы з трох кантынэнтаў сьвету.

Сп. Я. Гавенчык прачытаў вельмі цікавы рэфэрат пра падзеі пэрыяду тварэньня БНР. Сп-ня Ніна Зуй прадэклямавала верш «Беларускай я завуся», а М. Л. прачытаў мала ведамы верш Янкі Купалы «Гадаўшчына-памінкі», напісаны на другія ўгодкі Незалежнасьці 25 сакавіка 1920 году. Адсьпяваньнем нацыянальнага гімну закончылася ўрачыстая частка.

*(Працяг на 4-й б.)*

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

(Заканчэньне з 3-й б.)

Адбыўся супольны абед, што прайшоў у мілай сяброўскай атмасфэры. Усё часьцей у нас бываюць госьці зь Беларусі, і гэтым разам супольна сьвяткавалі наш Вялікі Дзень дзьве зямлячкі з Бацькаўшчыны. Дык Жыве Беларусь!

**М. Лужынскі**

## ПЭРТ, ЗАХ. АЎСТРАЛІЯ

У нядзелю 19 сакавіка ў Беларускім Народным Доме сабраліся сябры й сымпатыкі Беларускага Аб'яднаньня ў Зах. Аўстраліі, каб адсьвяткаваць найбольшае нацыянальнае сьвята — угодкі абвешчаньня Акту 25 Сакавіка. Уступным словам адчыніў акадэмію старшыня Б. А. ў З. А. сп. Леў Дамброўскі. Былі адыграныя беларускі й аўстралійскі нацыянальныя гімны. Сп. А. Мароз прачытаў прысланыя прывітаньні ад рэдакцыі Беларускае сэкцыі радыё Ватыкану (а. Р. Тамушанскі, сп.сп. Я. Мойсік і Нагас), Сьвяткавальнага К-ту ў Лёс-Анджэлесе (сп. Ч. Найдзюк), Беларускага Аб'еднаньня Паўдзённай Аўстраліі (сп. Я. Ролсан), Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі (сп. П. Гуз) і Беларускай Цэнтральнай Рады (сп. М. Зуй).

Былі прачытаныя два даклады: пабеларуску й паангельску. У першым дакладчыца сп-ня Ефрасіньня Дамброўская зрабіла агляд заняпаду беларускай дзяржаўнасьці й паступовага адраджэньня, якое завяршылася абвешчаньнем незалежнасьці БНР. У англамоўным дакладзе сп. Л. Дамброўскі засяродзіўся на прабегу 1-га Ўсебеларускага Кангрэсу й Акце 25 Сакавіка. Аб тым, што даклады былі цікавыя, сьветчылі гучныя воплескі.

Сьвяткаваньне закончылася пачастункам, за які належыцца шчырая падзяка сяброўкам Беларускага Аб'еднаньня.

**М. Р.**

## АДЭЛЯЙДА, АЎСТРАЛІЯ

Сьвяткаваньне ўгодкаў Незалежнасьці адбылося тут у нядзелю 2 красавіка, зладжанае Беларускім Аб'еднаньнем. Айцец Міхась адправіў малебен у беларускай мове, які было вельмі прыемна слухаць. Сказаў прачулую пропаведзь ды запрасіў усіх у прыцаркоўную залю, дзе адбылася акадэмія й супольны абед.

Па адсьпяваньні беларускага гімну старшыня Аб'еднаньня сп. М. Калесьнікович прачытаў прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў і зьмястоўны рэфэрат у беларускай і ангельскай мовах. Сп. Янка Ролсан, сакратар Аб'еднаньня, прачытаў пабеларуску рэзалюцыю, у якой выказанае падтрыманьне дамаганьняў у Беларусі дзяржаўнасьці роднае мовы й сувэрэннасьці рэспублікі. Сп. Калесьніковіч прачытаў тую самую рэзалюцыю паангельс у і запрапанаваў выслаць яе аўстрал скаму ўраду, што было аднадушна ўхвалена. На заканчэньне афіцыйнай часткі сп. Калесьніковіч падзякаваў усім за ўдзел у сьвяткаваньні.

Айцец Міхась бласлявіў расстаўленую на сталох ежу, умела нарыхтаваную жанчынамі. На сьвяткаваньні была госьця зь Менску, прыемная й прыгожая жанчына, якой засьпявалі «Многае лета». Наведніца шчыра дзякавала дарагім суродзічам і сказала: «Даражэнькія Беларусы, я ніколі не забуду Вас».

**У. Акавіты**

## НЕАФІЦЫЙНЫ ПЕРШАМАЙСКІ МІТЫНГ

Згодна з паведамленьнем няштатнага менскага карэспандэнта Беларускае сэкцыі радыё «Свабода», у сталіцы Беларусі тысячы людзей сабраліся ўраньні 1-га травеня пад бел-чырвона-белыя штандары ля будынку Акадэміі Навук, каб правесьці сваю дэманстрацыю ў знак еднасьці дэмакратычных сілаў. Да дэманстрантаў далучыліся прадстаўнікі народных франтоў Эстоніі, Латвіі, Грузіі. На мітынгу выступіў з прамоваю сябра аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк, які сказаў, што галоўнае заданьне БНФ — адрадзіць Бацькаўшчыну на дэмакратычных асновах. Беларускі Народны Фронт, сказаў Пазьняк, ня можа быць радыкальным, экстрэмісцкім рухам (у чым яго абвінавачваюць менскія бюракраты), паколькі БНФ аб'ядноўвае ў сабе розныя плыні.

Экстрэмізм затое характэрны сталіншчыне, духам якое пазначаны бюракратычны апарат Менску. Вандэя на Беларусі не павінна прайсьці, сказаў Пазьняк, бо ўсё больш сумленных людзей салідарызуецца з БНФ. Пазьняк заклікаў да вытрываласьці на вялікім шляху, які яшчэ давядзецца прайсьці, каб адбудаваць дэмакратычную Беларусь.

Кансэрватары з урадавых колаў рыхтавалі правакацыю, але прыблізна за тыдзень да сьвята ў рэдакцыі некаторых рэспубліканскіх газэтаў патэлефанавалі два міліцэйскія старшыны і расказалі аб тым, як міліцыю рыхтавалі да разгону сьвяточнай калёны Народнага Фронту.

Грамада на мітынгу ўспрыняла як правакацыю выкрыкі сакратара Менскага гаркому партыі Івановай, якая загадвала: «Разыходзьцеся, дэманстрацыя не дазволеная!» Калі за поўгадзіны прыбыў пасланец уладаў з афіцыйнай забаронай дэманстрацыі, а Ленінскі праспэкт перакрылі міліцыянеры, людзі страшэнна абурыліся, але стрымаліся ад таго, каб разрываць кардон міліцыі, хоць былі заклікі, каб пайсьці да помнікаў Коласу, Купалу й Багдановічу. Было пастаноўлена ісьці на Курапаты. Там на адным з узвышшаў людзі аддалі пашану ахвярам сталінскага генацыду: маліліся, усклалі кветкі на няпрыбраныя яшчэ магілы, дэклямавалі вершы.

Пасьля грамада дэманстрантаў прайшлася па горадзе да помніка Максіму Багдановічу, дзе былі пакладзеныя кветкі. У зацісныт шматпавярховымі дамамі вуліцах усьплёснуўся вкрык «Жыве Беларусь!» і, памножанае рэхам, тысячагалосьсе падхапіла: «Жыве!..»

## НОВЫ ЧАСАПІС — «РЭАНІМОВА»

Што гэта — рэанімова? Гэта рэанімацыя мовы. Гэткі назоў абралі маладыя выдаўцы для свайго часапісу ў Горадні (або Гародні). Публікацыя гэтая невялікая, але моўна й палітычна на належным узроўні і добра ілюстраваная. Поўны загаловак «РЭАНІМОВА з над Нёману». Да нас дайшлі два нумары.

Гародня з гонарам трымае другое пасьля Менску месца ў цяперашнім нацыянальным адраджэньні Беларусі.

## МІТЫНГ МАЎЧАНЬНЯ Ў МЕНСКУ

У Менску 26 красавіка сёлета перад Домам ураду адбыўся гадзінны «мітынг маўчаньня», на які прыйшлі тысячы людзей. Мітынг быў скліканы арганізацыйным камітэтам Беларускага Народнага Фронту на адзначэньне ўгодкаў чарнобыльскай аварыі. Пра яго паведаміў чытачом газэты «Комсомольская Правда» (11.V.89) беларускі пісьменьнік Алесь Адамовіч на ўступе да сваіх пытаньняў аб «расстрэле» радыяцыйнае хмары над Магілеўшчынай (гл. у іншым месцы гэтага нумару).

Маўчаньне мітынгу сымбалізавала зацiск савецкай бюракратыяй інфармацыі пра запраўдны радыяцыйны стан на беларускіх тэрыторыях.

Паводля парыскае газэтты «Русская Мысль» (5.V), на жалобным мітынгу было «каля чатырох тысячаў чалавек» з чорнымі сьцягамі й запаленымі сьвечкамі.

У Бабруйску групу каля 10 асобаў, што праводзіла «гадзіну жалобы» міліцыя адгарадзіла ад прахожых аўтобусам ды трыма дзясяткамі міліцыянераў і людзей у цывільным, а ў аднае асобы, што фатаграфавала падзею, адабралі фотаапарат і засьвяцілі плёнку.

## ЦІ «РАССТРАЛЯЛІ» ЯДЗЕРНУЮ ХМАРУ НАД БЕЛАРУСЯЙ?

З гэткім пытаньнем зьвярнуўся публічна, на старонках «Комсомольской Правды» (11.V.89) беларускі пісьменьнік і народны дэпутат СССР Алесь Адамовіч да заступніка прэм'ера СССР Барыса Шчарбіны і да міністра атамнай энэргетыкі Мікалая Луконіна. «Ці гэта праўда, — піша Алесь Адамовіч, — у чым жыхары Магілеўшчыны пераканаfamous (і што пацьвярджаюць паважныя вучоныя), а менавіта: ці праўда, што аддаленыя ад Чарнобыля раёны Магілеўскай вобласьці — Краснапольскі, Слаўгарадзкі, Чэрыкаўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі і некаторыя іншыя (а таксама частка Бранскіх раёнаў) дасталі нагэтулькі пагрозьлівую дозу радыяцыі з тае прычыны, што на іх 'пасадзілі' чарнобыльскую хмару? Расстралялі яе й пасадзілі. Тую, што неслася да Масквы».

Аўтар ліста згаджаецца з тым, што «васьмімільённую сталіцу трэба было ратаваць» ад «мірнага атама», але, пытаецца ён, чаму-ж ніхто дасюль ня ўзяўся ратаваць людзей гэных паражаных раёнаў, дзе цяпер радыяцыя ад 45 да 100 кюры на кв. км. пры дапушчальнай норме ня больш як 15 кюры і дзе нязвычайна высокая захворвальнасьць дзяцей.

## КОЛЬКІ ПАХАВАНА Ў КУРАПАТАХ?

Афіцыйныя прадстаўнікі ў БССР цяпер кажуць: «найменш 30 тысячаў». Паводля Зянона Пазьняка, які раскопваў магілы й найлепш азнаёмлены з месцам пахаваньня — у сярэднім 250 тысячаў. У шмат якіх паведамленьнях заходніх карэспандэнтаў называліся лікі 250.000 і 102.000. Амэрыканскі часапіс National Review (10.III.89), спасылаючыся на выказваньні З. Пазьняка, падаў: паміж 250 тыс і 300 тыс., папулярны-ж часапіс Time (10.IV.89) у вялікім матар'яле, прысьвечаным Савецкаму Саюзу, напісаў, што ацэны колькасьці ахвяраў вагаюцца ад 30 тыс. да 200 тысячаў.

**Сяргей Законьнікаў**

## ЗОНА МАЎЧАНЬНЯ

*Як прыйдзе ліха, то ня ўсядзіш ціха.*

**Прымаўка**

Агонь, радыяцыя люта зьвярэлі,
Кіпелі графіт і смала.
Ня грэшнікі, слаўныя хлопцы гарэлі...
І зона маўчаньня была.

Адлік пачынаўся нязнанае эры
Змаганьня жыцьця зь нябыцьцём.
І грукаўся, грукаўся кожнаму ў дзьверы
Чацьвёртага блёку разлом.

Скакалі і ў Швэцыі стрэлкі прыбораў,
Эўропу трывога гняла.
Зашкальвала ўсёчалавечае гора...
І зона маўчаньня была.

Пляваўся атрутнаю параю кратэр,
Злавесныя хмары плылі.
А людзі ў Нароўлі да майскага сьвята
Двары, тратуары мялі.

У вёсках гароды рабілі жанчыны,
Чаромха буяла, цьвіла...
Кацілі ад Кіева прэч лімузыны...
І зона маўчаньня была.

...аўзы між людзей нячуваныя чуткі
...пухла ад іх галава.
Глядзелі з надзеяй на радыё: «Хутка
Усё растлумачыць Масква».

Ішлі піянеры ў сьвяточных калёнах,
Зьвінела парадная медзь.
Стаялі ў чаканьні нямым эшалёны:
«Як грымне, ці зможам пасьпець?..»

А мне і цяпер не хапае азону,
Ня выбрацца з даўкага тхла...
Яшчэ ня было адгароджанай зоны,
А зона маўчаньня была.

*(З паэмы «Чорная быль», **«ЛіМ»**, 21.IV.89)*

## ВЫБАРЫ Ў БССР

У БССР выбіраліся 93 народныя дэпутаты СССР, зь іх 19, у тым ліку першы сакратар КПБ Яфрэм Сакалоў, ня мелі ніякіх апанэнтаў. Тым ня менш, двух зь іх не прайшлі. Паўторныя выбары праводзіліся ў 13 акругах, а тады яшчэ раз — у 10 акругах (10 травеня).

З прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронту прайшлі Васіль Быкаў, Рыгор Падбярэскі, Аляксандар Дабравольскі, Аляксандар Жураўлёў. Зь дзеячоў беларускае культуры прайшоў таксама кампазытар Ігар Лучанок.

Старшыня «Мартыралёгу Беларусі» Зянон Пазьняк сказаў у інтэрв'ю латыскай газэце «Советская Молодёжь» (20.IV): «Тыя кандадаты, супраць якіх выступаў фронт (Беларускі Народны), не прайшлі, кандыдаты-ж фронту прайшлі, у тым ліку сябра арганізацыйнага камітэту А. Жураўлёў.

### «МАРТЫРАЛОГ» № 1/1989

Выданьне Беларускага Грамадзкага Гісторыка-Асьветніцкага Таварыства ахвяраў сталінізму «Мартыралог Беларусі».

У гэтым самвыдавецкім машынапісным часапісе (28 бачынак) зьмешчаныя: паведамленьне аб таварыстве «Мартыралог Беларусі»; рэзалюцыя ўстаноўчага сходу «Мартыралогу»; статут «Мартыралогу»; тэкст заявы рады «Мартыралогу Беларусі» ў Прэзыдыюм ВС БССР аб шальмаваньні й гвалце менскіх уладаў супраць грамадзкага руху за нацыянальнае адраджэньне; артыкул гісторыка Ул. Дзянісава «Чаму Менск стаў Мінскам?»; хроніка.

*Замаразкі пасьля адлегі*

# УКАЗ НА ЗАЦІСК ПУБЛІЧНАСЬЦІ

Рэагуючы на ўздым нацыянальнага руху ды асабліва на патрыятычную актыўнасьць моладзежных гуртоў, Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету БССР 31 сакавіка сёлета забараніў указам ужываньне нацыянальнае сымболікі — бел-чырвона-белага сьцягу й «Пагоні», а таксама забараніў самвыдавецкія публікацыі.

У Кодэкс Беларускай ССР аб адміністрацыйных праварушэньнях унесеныя дапаўненьні, накіраваныя першнаперш «на спыненьне такіх нэгатыўных зьяў, як спэкуляцыя, парушэньні правілаў гандлю і распаўсюджаньня друкаваных выданьняў». Прадбачаныя штрафы «ад ста да двухсот рублёў з канфіскацыяй прадметаў гандлю або папраўчай работы на тэрмін ад аднаго да двух месяцаў з утрыманьнем 20% заработку з канфіскацыяй прадметаў гандлю».

Разам з забаронай скупліваць і перапрадаваць гарэлку ды розныя шырспажывецкія тавары забаронена купляць і перапродваць кнігі, ноты, грамафонныя кружэлкі, магнітафонныя істужкі й відэакасэты.

Артыкул 167(2) Кодэксу кажа:

«Карыстаньне ў грамадзкіх месцах флагамі і вымпеламі, не зарэгістраванымі ва ўстаноўленым парадку, а таксама выраб, распаўсюджаньне або нашэньне плакатаў, эмблем і сімвалаў, зьмест якіх накіраваны на нанясеньне шкоды дзяржаўнаму і грамадзкаму парадку, права́м і законным інтарэсам грамадзян, вядзе да папярэджаньня або накладаньня штрафу на грамадзян у размеры да 50 рублёў і папярэджаньня або накладаньня штрафу на службовых асоб — да 100 рублёў з канфіскацыяй гэтых прадметаў».

Пра абмежаваньне карыстаньня размнажальнай тэхнікай гаворыць артыкул 172, які гучыць этак:

«Парушэньне службовымі асобамі правіл адкрыцьця паліграфічных і штэмпельна-гравюрных прадпрыемстваў, набыцьця і збыту паліграфічнага абсталяваньня, размнажальных апаратаў, шрыфтоў і матрыц, вядзе да накладаньня штрафу ў размеры да 100 рублёў. (...)

«Распаўсюджваньне друкаваных выданьняў, што выробленыя з парушэньнем устаноўленага парадку і ня маюць выпускных дадзеных, зьмест якіх накіраваны на прынясеньне шкоды дзяржаўнаму і грамадзкаму парадку, права́м і законным інтарэсам грамадзян, вядзе да папярэджаньня або накладаньня штрафу ў размеры да 50 рублёў з канфіскацыяй гэтых выданьняў».

Узмоцненая таксама пагроза арышту. Артыкул 242 кажа цяпер, што «асобы, якія ўчынілі дробнае хуліганства, парушэньне парадку арганізацыі вядзеньня сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацыяў, незаконны продаж тавараў або іншых прадметаў або дробную спэкуляцыю, могуць быць затрыманыя да разгляду справы народным судзьдзёй або начальнікам (намесьнікам начальніка) органу ўнутраных справаў».

Паводля намесьніка загадчыка юрыдычнага адзьдзелу Прэзыдыюму ВС БССР Г. Васілевіча («Сов. Бел.», 15.IV), справа арыштаванага за «дробнае хуліганства» павінна быць разгледжаная на працягу сутак, а за «дробную спэкуляцыю» — на працягу трох сутак.

Дзясятага красавіка Прэзыдыюм ВС СССР парабіў таксама зьмены ў законе «Аб крымінальнай адказнасьці за дзяржаўныя злачынствы» (з даручэньнем саюзным рэспублікам парабіць адпаведныя зьмены ў рэспубліканскіх кодэксах).

Чыноўніцкая самаволя гэтым законам будзе яшчэ больш пашыраная. Гэтак, прыкладам, у новым законе сказана, што «публічныя абра́зы або дыскрэдытацыя вышэйшых органаў дзяржаўнай улады і кіраўніцтва СССР, іншых дзяржаўных органаў... або службовых асобаў..., як і грамадзкіх арганізацыяў, грамадзкіх органаў, створаных ува ўстаноўленым парадку і якія дзейнічаюць згодна Канстытуцыі СССР», караецца пазбаўленьнем свабоды на тэрмін да ТРОХ гадоў або штрафам да 2000 рублёў».

Бязумоўна, пад паняцьце «абра́зы або дыскрэдытацыі службовай асобы ці грамадзкага органу» міліцыянер і бюракрат могуць падцягнуць самую бязьвінную рэпліку іншадумца ці дэманстранта.

Пракурор БССР Г. Тарнаўскі на пытаньні карэспандэнта «Чырвонай Зьмены» (25.IV) «Як тлумачыць новы закон, што датычыць сымболікі? Ці можна карыстацца бел-чырвона-белым сьцягам і вымпелам 'Пагоня'?» адказаў: «Пакуль сьцяг і вымпел не зарэгістраваныя згодна з устаноўленым парадкам, карыстаньне імі катэгарычна забаронена. Інакш тлумачыць гэты артыкул нельга».

У рэспубліках Прыбалтыкі нацыянальная сымболіка (сьцягі й гэрбы часоў незалежнасьці да 1940 году) была дазволеная адпаведнымі актамі рэспубліканскіх Вярхоўных Саветаў у 1988 годзе.

**Вядзьмак Менскі**

## УКАЗ МЕНСКАЙ ВАНДЭІ
### Пасьля правалу на выбарах

Плён галоснасьці і перабудовы —
Друкаванае вольнае слова —
Апаратчыкі душаць указам,
Тайным страхам, яўным маразмам,
Дзе ўгалоўшчыну і палітыку
Сталіністы зьмяшалі звыкла.

Гэта ўказ — за сьпіной народу,
Незаконны, ганебны, пошлы.
Зноў — вяртаньне глуму і зьдзеку.
Зноў — таптаньне правоў чалавека.

За правал партбосаў на выбарах
Гэта — помста буйнога калібру,
Мітусьлівая, істэрычная,
Як і ўсё ў іх — трагікамічная.

Верхаводы Вандэі мяркуюць,
Што з крэслаў зьляцець разыкуюць.

Калі зараз ка́ра ня выбухне,
Не асядзе свабоды вал,
На асеньніх тутэйшых выбарах
Будзе поўны Вандэі завал.

Скажам тым верхаводам нягодным:
Гэта — выклік правам міжнародным.
Скажам нашым цанавам і бэндам:
Па ўказе — на іх рэфэрэндум,
А папростаму: гэткаму ўказу
Самы раз на сьметнік адразу.

Найшчырэйшыя пажаданьні беларускаму культурнаму й палітычнаму дзеячу, літаратару, гісторыку літаратуры й палітычнага адраджэньня Беларусі

## АНТОНУ АДАМОВІЧУ

з нагоды 80-годзьдзя жыцьця, што спаўняецца 26 чырвеня 1989 году, выказваюць прыяцелі й супрацоўнікі зь Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, рэдакцыі газэты «Беларус» ды Беларускае сэкцыі радыё «Свабода».

Сардэчна вітаем з 20-мі ўгодкамі сьвятарства, што споўніліся 28 травеня сёлета, нашага шчырага прыяцеля й вялікага хрысьціяніна

## а. ЯЗЭПА СЫРУ

ды зычым яму добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў далейшай службе Богу й Беларускаму Народу.

**Рэдакцыя «Беларуса»**
**і прыяцелі-Беларусы**

## ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА

Паломніцтва да паўсталенага летась на адзначэньне 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі Крыжа ў Мідляньдзе ў Канадзе адбудзецца

**24 чэрвеня 1989 г. (сыбота)**

Сьв. літургію перад Крыжам адслужыць (а 10-й гадз. ўраньні) а. Язэп Сыру, настаяцель царквы Хрыста Збаўцы ў Чыкага. Па багаслужбе — пікнік і зьведаньне вельмі цікавай прошчы.

Дакладнейшую інфармацыю можна атрымаць ад др. Раісы Жук-Грышкевіч, 54 Mary St. Barrie, Ont. L4N 1T1, Canada. Tel.: (705) 728-7581.

## ІНЖ. ЯНКА ЖУЧКА НА МІЖНАРОДНЫМ ФОРУМЕ

Выпускнік Гімназіі імя Янкі Купалы і Лювэнскага Ўнівэрсытэту інж. Янка Жучка шмат гадоў працуе дарадчыкам Бэльгійска-Люксэмбурскага Цэнтру сталёвае прамысловасьці, рэдагуе выданьні цэнтру. У францускамоўным часапісе La Chronique (21.IV.89) зьмешчаны ілюстраваны артыкул Я. Жучкі пра канструкцыю новага Агараўскага аэрапорту ў Чыкага. Артыкул напісаны на аснове ранейшага дакладу на прафэсійнай канфэрэнцыі на тэму «Новае разьвіцьцё ўва ўжываньні сталі ў будаўніцтве». 19-га травеня сёлета інж. Я. Жучка ўзяў удзел у канфэрэнцыі каля Бруксэлі з дакладам на тэму «Стальныя канструкцыі і пажары ў будынках».

## ГРУПА «БЕЛАРУСКІ КАТАЛІЦКІ СХОД»

Згодна з машынапісным дакумэнтам, што трапіў да нас нядаўна, у Беларусі ў сьнежні летась была створаная група «Беларускі Каталіцкі Сход», якая паставіла сабе за мэту:

1. Дамагацца беларусізацыі касьцельнага жыцьця на Беларусі.
2. Абараняць права на набажэнства ў роднай мове для Беларусаў-каталікоў за межамі Беларусі.
3. Спрыяць утварэньню на тэрыторыі Беларусі самастойнае дыяцэзіі (біскупства).
4. Выдаваць у роднай мове рэлігійную літаратуру і пашыраць Сьвятое Пісьмо.
5. Вывучаць гісторыю Беларускага Касьцёлу.
6. Ставіць пытаньне аб адкрыцьці на Беларусі каталіцкае сэмінарыі для рыхтаваньня беларускага нацыянальнага пастырства.
7. Падтрымліваць сувязь зь Беларусамі-каталікамі на Захадзе.

## РЭЛІГІЙНЫ ЧАСАПІС «ФОС»

Грэцкае слова «фос» значыць сьвятло. Пад гэткім назовам пачаў выходзіць у Беласточчыне (на правах рукапісу, тыраж: 80 экз) невялікі самвыдавецкі часапіс. Выданьне машынапіснае, ілюстраванае. Без адрасу. Выйшла чатыры нумары. Зьмест гістарычна-рэлігійны.

## *МАЕ ЎРАЖАНЬНІ З КАНФЭРЭНЦЫІ*

У Парыжы 9-10 травеня адбылася канфэрэнцыя на тэму "Дэмакратычная альтэрнатыва ў савецкім блёку". На першы дзень канфэрэнцыі ў залі паседжаньняў сабралася каля 150 асобаў. На сьцяне перад імі вісела вялікая палітычная карта савецкіх рэспублік і цэнтральна-эўрапейскіх дзяржаваў, а за сталом сядзелі дакладчыкі ад імя Эстонцаў, Латышоў, Літоўцаў, Украінцаў, Крымскіх Татараў, Грузінаў, Армянаў, Гэбрэяў і сп-ня Джын Кэркпатрык, былы пасол ЗША у ААН. Беларусы былі запрошаныя да ўдзелу ў канфэрэнцыі, але запозна, каб фігураваць у друкаванай праграме, якая рыхтавалася загадзя.

Бальшыня дакладчыкаў гаварылі парасейску. Працоўнымі мовамі былі расейская, ангельская і француская. У ходзе канфэрэнцыі беларускі прадстаўнік сп. Міхась Наўмовіч атрымаў слова на 4-5 хвілін і сьцісла перадаў зьмест падрыхтаванага загадзя сп. Янкам Запруднікам даўжэйшага дакладу аб сучасным палажэньні на Беларусі. Гаварыў сп. Наўмовіч (пафранцуску) пра рух у БССР за нацыянальнае адраджэньне, сказаў пра вынішчэньне беларускае інтэлігенцыі й сялянства (Курапаты), дзейнасьць групаў патрыятычнае моладзі («нефармалы»), пра дэманстрацыі, Беларускі Народны Фронт, «Мартыралёг Беларусі» і дамаганьні дзяржаўнага статусу для беларускае мовы. Выступленьне было сустрэтае цёплымі воплескамі і заўвагамі «трэ б'ен» (вельмі добра).

У часе кактэйлю й вячэры да сп. Наўмовіча падыходзіла шмат людзей, пераважна маладых, каб даведацца больш пра Беларусь.

**Н. Л.**

*ЧАКАЕМ І АД ВАС АХВЯРЫ НА «БЕЛАРУСА»*

# ЗВАРОТ ЛЕХА ВАЛЭНСЫ ДА ВЫБАРШЧЫКАЎ

### У справе нацыянальных мяншыняў

У Польшчы жывуць з намі Украінцы і Беларусы, меншыя групы Літоўцаў, Гэбрэяў, Славакоў, Немцаў, Чэхаў, Армянаў, Татараў, праваслаўных і грэка-каталікоў, а таксама хрысьціянаў, што выводзяць сябе з Рэфармацыі. Гэта наша нязвычайна важная й прыгожая спадчына з'часоў даўнае Рэчы Паспалітае шматлікіх народаў. У мамэньце, калі будзяцца ізноў нацыянальныя надзеі, мы павінны адрадзіць традыцыю талерантнасьці й пашаны адзін да аднаго ў імя супольнай мінуўшчыны, дый будучыні.

Гэтыя людзі, што жывуць сярод нас, Палякоў, найчасьцей ад дзеда-прадзеда, нясуць гэткія самыя цяжары. Маюць яны падобныя да нашых страхі й надзеі. З тым толькі, што ў іх ёсьць дадатковыя турботы: аб тым, як захаваць у польскім навакольлі сваю рэлігійную й нацыянальную самабытнасьць, сваю культуру й сьвятыні. Сваю годнасьць безь «пераапрананьня сябе» ў Палякоў. Аб тым, каб узгадаваць для ўласнае нацыі і царкваў сваіх дзяцей.

Памятайма пра гэтых нашых бліжніх і суграмадзянаў, асабліва ў цяперашняй выбарнай кампаніі. Нават у найбольш зацятых ейных сутычках. Знайдзём і ўшануйма месца ў гэтай кампаніі, у якой яны маглі-б узяць з годнасьцяй належны ім удзел. Гэта наш людзкі й маральны абавязак, гэтак выразна прыгаданы нядаўна сьвету адмысловым выказваньнем Сьвяцейшага Айца аб практычным шанаваньні нацыянальных мяншыняў. Гэта таксама й наш палітычны абавязак, чыста польскі; маем мільёны суродзічаў, часткава за нашымі цяперашнімі межамі, якія жывуць на правох мяншыняў і для якіх мы дамагаемся ўшанаваньня іхнае самабытнасьці й годных абставінаў грамадзкага жыцьця.

Было ў нашай супольнай мінуўшчыне шмат канфліктаў і ўзаемных крыўдаў. Жывуць яны, нажаль, і да сёньня. Не дазволім, аднак, каб гэтыя пачуцьці і «рацыі» ўзялі верх над паяднаньнем — у гэтую важную часіну. Не дазволім нікому граць на гэтым!

У Польшчы няма акругі бязь менш або больш колькаснага ліку суграмадзянаў іншае нацыянальнасьці ці веры. Нашыя кандыдаты павінны надаць ім ды іхным справам належную ўвагу. І гэта ня толькі ў кандыдацкіх абяцаньнях, але і ў вашай пасьлейшай парлямэнтарнай працы!

Адным з важнейшых спосабаў праверыць запраўдныя кваліфікацыі нашых сэнатараў і паслоў будзе іхнае ўмелае і сумленнае запачаткаване ў Польшчы пэрыяду закрываньня рахункаў узаемных абвінавачваньняў і крыўдаў ды адчыненьне новага пэрыяду, сумернага вымогам блізкога ўжо трэйцяга Тысячагодзьдзя па Хрысьце, годнага сужыцьця над Віслаю грамадзянаў розных нацыянальнасьцяў, культураў і вераў.

30 красавіка 1989 г.

**Лех Валэнса**

## ЗА ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКАЕ ПАРАЗУМЕНЬНЕ

### Заклік ППС

У сьнежні летась (16.XII) у Варшаве на сходзе прадстаўнікоў акадэмічнага асяродзьдзя Польскае Сацыялістычнае Партыі (ППС) быў прыняты «Заклік да нацыянальных дзеячоў Беларусаў, Літоўцаў, Украінцаў у СССР і польскіх дзеячоў у Беларускай, Літоўскай і Ўкраінскай рэспубліках». У закліку сказана: «Пацьвярджаем, што мы супраць імкненьняў да тэрытарыяльных зьменаў паміж Польшчаю ды Літоўскай, Беларускай і Ўкраінскай ССР, прызнаючы, што цяперашнія межы могуць станавіць слушную аснову будучай мяжы паміж Польшчай ды ейнымі ўсходнімі суседзямі». У закліку сказана, што тэрытарыяльныя спрэчкі пайшлі-б толькі на карысьць вялікадзяржаўнаму шавінізму ды апраўданьню і ўмацаваньню расейскае дамінацыі.

Калі расейскія жаўнеры, кажацца далей у закліку, становяцца гарантам таго, каб Азэрбайджанцы ня выразалі Армянаў, дык гэта трагедыя і для Армянаў і для Азэрбайджанцаў ды перасьцярога для ўсіх іншых.

Аўтары закліку ўстрывожаныя фактам, што цяпер частка польскіх дзеячоў у Літве «выбірае варыянт апіраньня на расейскую дамінацыю, неабгрунтавана бачачы пагрозу сабе ў нацыянальным літоўскім руху».

Дакумэнт канчаецца заклікам да Палякоў у Літве, на Украіне й Беларусі, каб яны падтрымвалі вызвольныя імкненьні літоўскага, украінскага й беларускага народаў. Разам з тым яны заклікаюць літоўскіх, украінскіх і беларускіх нацыянальных дзеячоў не забывацца у сваёй дзейнасьці пра польскую мяншыню ды ўключаць ейныя справы ў праграму сваіх дзеяньняў. «Дэмакратычная апазыцыя ў Польшчы, — сказана ў закліку, — можа быць вартасным саюзьнікам у вашым змаганьні. Дасягнуць гэтага аднак можа быць цяжка, калі Палякі ў вашых краінах будуць чуцца загрожанымі ня гольки расейскай дамінацыяй».

## *ЗЬ НЬЮ-ЁРКУ Ў БЕЛАСТОЧЧЫНУ*

### Гастролі «Васілька»

Танцавальны ансамбль Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі «Васілёк» (20 асобаў) 16 чэрвеня адляцеў на гастролі ў Беласточчыну. З праграмай беларускіх народных танцаў ансамбль выступіць у Гайнаўцы, Бельску, Беластоку; возьме ўдзел у сьвяткаваньні Купальля ў Белавежы; выступіць у Сямяцічах і яшчэ раз у Беластоку.

Чатыры апошнія дні побыту (26-29.VI) пройдуць у наведваньні памятных мясьцінаў Беластоку, а таксама месца нараджэньня Кастуся Каліноўскага.

Чытайце рэпартаж пра гастролі «Васілька» ў наступным нумары «Беларуса».

## БЕЛАРУСКІЯ СТУДЭНТЫ Ў ОЛЬШТЫНЕ

Ужо два гады як у Ольштыне (ПНР) дзейнічае беларуская студэнцкая група. Летась 10 сакавіка яна была нарэшце зарэгістраваная як Рада Культуры Студэнтаў Беларускае Нацыянальнасьці пры Задзіночаньні Польскіх Студэнтаў. Да таго часу працу беларускім студэнтам даводзілася праводзіць падпольна.

Дзейнасьць пачалася ад сустрэчы зь пісьменьнікам Сакратам Яновічам, які цяпер часта наведвае студэнцкую моладзь у Ольштыне. Быў праведзены агляд фільмаў Тамары Саланевіч (у тым ліку «Крэсова бальляда»). Адбылася сустрэча зь гісторыкам Міколам Івановам, які прачытаў даклад на тэму «Сытуацыя беларускіх студэнтаў у БССР».

12-14 травеня сёлета адбылася ў Залесьсі каля Ольштына канфэрэнцыя на тэму «Стан нацыянальнай сьвядомасьці Беларусаў і пэрспэктывы разьвіцьця». Удзельнічалі 30 студэнтаў з цэлага краю.

Адбылося колькі вечароў паэзіі, супольнага адзначэньня іншых сьвятаў.

*З жыцьця на Беласточчыне*

## БЕЛАРУСКІ КЛЮБ

У Беластоку 11 лютага сёлета быў заснаваны Беларускі Клюб, адным з заданьняў якога будзе супрацьдзеяць дэнацыяналізацыі Беларусаў. «Да часу ўзьнікненьня нармальнага палітычнага жыцьця, — сказана ў дэклярацыі, — Беларускі Клюб будзе цэнтрам самастойнай беларускай думкі».

Заснавальнікі клюбу: Яўген Вапа (студэнт), Мікола Ваўранюк (студэнт), Юрка Каліна (студэнт), Алег Латышонак (гісторык), Юрка Ляшчынскі (журналіст), Янка Максімюк (журналіст), Антон Міpановіч (гісторык), Яўген Мірановіч (гісторык), Лявон Тарасэвіч (мастак), Юрка Туронак (гісторык), Сакрат Яновіч (літаратар).

## САКРАТА ЯНОВІЧА Ў СЭНАТАРЫ!

Галоўная Ўправа Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства выставіла кандыдатуру беларускага літаратара Сакрата Яновіча на выбары ў Сэнат Польшчы. У перадвыбарным плякаце з фатаграфіяй кандыдата даецца ў дзьвюх мовах (польскай і беларускай) ягоная кароткая біяграфія. С. Яновіч (1936 г. нар.) ад часу заканчэньня ў 1955 г. Электрычнага тэхнікуму браў актыўны ўдзел у грамадзкім жыцьці Беласточчыны. Напрыканцы 1960-х гадоў ён быў ужо шырака ведамым у Польшчы і паза ейнымі межамі пісьменьнікам. Ён — аўтар больш як паўтара дзесятка кніжак.

У канцы ягонае біяграфіі на плякаце сказана: «Яновіч часта бярэ голас на ўсякіх форумах Польшчы, каб заступацца за правы беларускай нацыянальнай меншасьці, за што прышываюць Яновічу розныя 'латкі'. Як асобе матар'яльна незалежнай, на шчасьце, ня могуць яму пашкодзіць».

## АСНОЎНЫЯ ДАМАГАНЬНІ БЕЛАРУСАЎ

У пераліку «асноўных патрэбаў беларускае нацыянальнае мяншыні ў Польшчы», які пашыраецца ў форме лістоўкі, названыя восем «асноўных патрэбаў», сярод якіх: запісаньне ў Канстытуцыі ПНР аб існаваньні нацыянальных мяншыняў і іхных правох; дазвол на заснаваньне Саюзу Беларускай Моладзі (нядаўна толькі, па доўгіх гадох змаганьня, беларускія студэнты дамагліся рэгістрацыі свайго Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў); беларускае прадстаўніцтва ў Сойме і пры Ваяводзкай Нацыянальнай Радзе ў Беластоку; навучаньне беларускае мовы і ў пачатковых школах Беласточчыны і выкладаньне беларускаю мовай у наяўных ліцэях; перавод БГКТ з падначаленасьці Міністэрству Нутраных Справаў у падначаленасьць Міністэрству Культуры й Мастацтва.

## «ПАД РОЗНЫМІ КРЫЖАМІ»

Вялікая і вельмі эмацыянальная, з узаемнымі абвінавачваньнямі, палеміка на тэму беларуска-польскіх дачыненьняў адбылася на старонках газэты «Кур'ер Падляскі» ў лютым-сакавіку сёлета (н-ры: 25, 30, 35, 40 і 45). Праф. Ежы Тамашэўскі, знаток праблемы нацыянальных мяншынаў Польшчы, падсумоўваючы спрэчкі адзначыў, што найбольшую шкоду польскім інтарэсам прыносяць тыя, хто імкнецца «давесьці да ліквідацыі (у грамадзтве Польшчы) усякія праявы адрозьненьня».

Варшаўская газэта «Політыка» (8.VI. 89) зьмясьціла ліст у рэдакцыю Ежы Тамашэўскага, які адказаў праф. Лешэку Тамашэўскаму на абразьлівыя выказваньні пра Беларусаў у папярэднім нумары «Палітыкі» ды паказаў, як Лешэк Тамашэўскі прамоўчвае й выкрыўляе некаторыя факты.

## ІНТЭРВ'Ю З САКРАТАМ ЯНОВІЧАМ

У інфармацыйным бюлетэні «Салідарнасьць», што выходзіць у Беластоку (№ 118, 10.IV.89), зьмешчаная гутарка Леха Якубовіча з Сакратам Яновічам на тэму Яновічавага ўдзелу ў Грамадзкім Камітэтце «Салідарнасьці», у якім Яновіч уваходзіць у склад камісіі, што займаецца пытаньнямі нацыянальных меншасьцяў. У сакавіку, калі інтэрв'ю было запісане, Грамадзкі Камітэт «Салідарнасьці» рыхтаваўся да парлямэнцкіх выбараў. Яновіч сказаў, што Беларусы бачаць патрэбу ў колькіх паслох у Сойме і зазначыў пры гэтым, што калі Беларусы ў Польшчы будуць чуцца нядобра, дык гэта будзе нядобра сьветчыць і пра Палякоў. Беластоцкія актывісты «Салідарнасьці», сказаў Яновіч, былі абураныя, даведаўшыся пра ягонае належаньне да Грамадзкага Камітэту. Апрача Яновіча, у Камітэт увайшоў старшыня беларускае студэнцкае арганізацыі (БАС) Яўген Вапа. Некаторыя-ж маладыя Беларусы, сказаў Яновіч, цьвердзяць, што з Палякамі ня ўдасца дайсьці да паразуменьня.

## «СУСТРЭЧЫ» № 3-4, 1988

Публікацыя рады Культуры Беларускіх Студэнтаў у Варшаве. На 36-х старонках ілюстраванага нумару (галоўны рэдактар — Аляксандар Максімюк, графічнае афармленьне Юркі Навацкага) упярашыню зьмешчаныя матар'ялы пра змаганьне Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў за сваю легалізацыю, якое нарэшце БАС дамогся.

На старонках нумару прадстаўленыя вершамі літаратары «Белавежы»: Надзя Артымовіч, Алесь Барскі, Віктар Швэд, Уладзімір Гайдук, Міхась Шаховіч, Віктар Швэд, літаратурнымі замалёўкамі — Мікола Гайдук, Васіль Петручук і Сакрат Яновіч. Зьмешчаныя таксама вершы Аляксандра Максімюка, Сяргея Сокалава й Ларысы Геніюш.

З Хведарам Галёнкам гутараць пра эканамічныя справы жыхароў Беласточчыны Мікола Ваўранюк, Валянтын Сельвесюк і Яўген Вапа.

Зьмешчаны пачатак артыкулу Юр'я Туронка «Нарыс гісторыі беларускага школьніцтва на Беласточчыне», фрагмэнты раману Джэймса Джойса «Уліс» (пераклад Яна Максімюка), ілюстраваная хроніка, лісты ў рэдакцыю.

## КСЯНДЗЫ Й ПАЛІТЫКА

«Цяпер ёсьць польская школа ў Гродне. Я займаюся гэтымі пытаньнямі. Безьліч пісьмаў ляжыць ад Палякоў, якія патрабуюць адкрыць польскія школы. Мы высьвятляем, як зьбіраліся гэтыя подпісы, у чым справа. Аказваецца, усім, хто ходзіць у касьцёл, ксёндз гаворыць прама: або падавай заяву, каб была польская школа, або не хадзі ў касьцёл». — Барыс Сачанка, пісьменьнік, за «круглым сталом» газэты «Зьвязда», 13.V.89.

# ПАЛЯКІ Ў ЛІТОЎСКАЙ ССР

**Палякі ў Літве — карэнныя жыхары ці палянізаваныя Літоўцы й Беларусы?**

Нацыянальнае адраджэньне ў Літве, наданьне літоўскай мове статусу дзяржаўнай мовы прывяло да актывізацыі і іншых нацыянальных меншасьцяў у рэспубліцы, у тым ліку найбольшае зь іх — польскае. Паводля перапісу 1979 году, у ЛітССР жыве 247 тыс. Палякоў. Больш як трацiна Палякоў жыве ў Вільні — 86.600 (18% жыхарства гораду). У Вільні выходзіць польская штодзённая газэта «Чэрвоны Штандар», часапіс «Кобета Радзецка» і чатыры польскамоўныя выпускі раённых газэтаў. Пры Літоўскім радыё вядзецца штодзённа паўгадзінная польская праграма, перадаюцца папольску навіны на тэлебачаньні.

Апошнімі месяцамі паміж Літоўцамі й Палякамі паўсталі спрэчкі, галоўна вакол некаторых матар'ялаў «Чэрвонага Штандару», у якім, паводля Літоўцаў, пачалі зьяўляцца нацыяналістычныя выказваньні. У цэнтры спрэчак — пытаньне пра паходжаньне польскага жыхарства ў Літве. Палякі кажуць, што яны жывуць спрадвеку, а Літоўцы глядзяць на іх, як на спалянізаваных Літоўцаў і Беларусаў. Літоўцы зварачаюць увагу на факт, што ў літаратуры ранейшай як канец XIX ст. пра ніякіх Палякоў у Літве не гаворыцца і што цьверджаньні аб пражываньні Палякоў у Вільні зьявіліся толькі ў XX стагодзьдзі. У літоўскай газэце Komjaunimo Tiesa (30.III.89) у абмяркоўваньні гэтага пытаньня літоўскім паэтам і двума навукоўцамі была ўзятая ўвага на факт, што шмат жыхароў, запісаных афіцыйна як Палякі, у сям'і гутараць не папольску, а «папростаму», г. зн. пабеларуску.

У сакавіку сёлета літоўскія нефармальныя арганізацыі моладзі стварылі Каардынацыйны Камітэт Маладзежных Арганізацыяў Літвы, які заклікаў інтэграваць паўдзённа-ўсходнюю Літву ў духовае і палітычнае жыцьцё рэспублікі. У мэмарандуме літоўскага Каардынацыйнага Камітэту выказаная прапанова, каб «Чэрвоны Штандар» публікаваў таксама літоўскае й беларускае выданьні.

З вайстрэйшай крытыкай выступіў зь лістом у рэдакцыю газэты Literatura ir Menas (8.IV) першы сакратар ЦК кампартыі Літвы Альгерд Бразаўскас. Ліст Бразаўскаса быў падпісаны таксама літоўскімі творчымі саюзамі ды культурнымі таварыствамі Эстонцаў, Беларусаў, Украінцаў і Латышоў, і шэрагам літоўскіх арганізацыяў. У лісьце сказана:

«У сваіх артыкулах 'Чэрвоны Штандар' часта выкрыўляе гісторыю ўсходняе Літвы і моўную сытуацыю, выступае зь безагляднай крытыкай артыкулаў на тэму мінуўшчыны, працягвае прымусовую палянізацыю асобаў, што гутараць пабеларуску й палітоўску, ды беспадстаўна абвінавачвае аўтараў у 'антыпольскіх пачуцьцях' і 'шавінізьме'».

У лісьце Бразаўскаса «Чэрвоны Штандар» асуджаецца за «дэзынфармацыю» і нежаданьне пўблікаваць артыкулы із спасылкамі на гістарычныя крыніцы, якія не адпавядаюць паглядам польскае газэты. Бразаўскас заклікаў да стварэньня адпаведнае камісіі, якая разгледзела-б палітыку газэты ды паставіла рэдкалегію з працаўнікоў, здольных бесстаронна ацэньваць міжнацыянальныя дачыненьні ў рэспубліцы.

Літоўская газэта Komjaunimo Tiesa (10.II.89) паведаміла пра сход жыхароў Рукайняйскага сельсавету Віленскараёну, на якім была прынятая рэзалюцыя аб польскай аўтаноміі гэтае часткі раёну: на сходзе войстра крытыкавалі ўказ аб дзяржаўнасьці літоўскай мовы.

У Вільні 16-17 красавіка адбыўся ўстаноўны сход Польскага Грамадзка-Культурнага Таварыства і прынятая рэзалюцыя абператварэньні гэтае арганізацыі ў Саюз Палякоў Літвы (старшыня Ян Сенькевіч). У зьезьдзе ўзяло ўдзел 736 дэлегатаў зь Літвы ды польскіх гасьцей з Латвіі, Эстоніі, Беларусі, Казахстану, Масквы й Ленінграду. Створаная камісія для заснаваньня ўсесаюзнае арганізацыі Палякоў. На польскім зьезьдзе былі таксама польскі генэральны консуль зь Менску, прадстаўнік польскага пасольства ў Маскве ды генэральны сакратар «Паленіі». Ад літоўцаў быў Валер'ёнас Балтрунас, сакратар ЦК КПЛіт да справаў ідэялёгіі.

Саюз Палякоў Літвы паслаў ліст нацыянальнаму зьезду Літоўскага Руху за Перабудову «Саюдзіс» (23.IV) з заклікам да супрацоўніцтва і з заявай пра падтрыманьне справы літоўскай сувэрэннасьці. У лісьце сказана: «Як патрыёты супольнай бацькаўшчыны мы мусім выпрацаваць пагадненьне. Тады зразуменьне і ўзаемная пашана запануюць паміж народамі Літоўскай краіны, уключна з ваколіцамі Вільні. Сувэрэннасьць Літвы і ейны дабрабыт — наша супольная мэта. За вашу і нашу свабоду».

*(Паводля артыкулу Саульюса Гірнюса з радыё «Вольная Эўропа», 2.V.89).*

## «ПРАВАСЛАЎНАЯ ДУМКА» № 1

У Беларусі напярэдадні Вялікадня выйшаў першы нумар самвыдавецкага часапісу «Праваслаўная Думка» (8 старонак машынапіснага друку ў добрым графічным афармленьні; тыраж 10 тыс. экз.). Падзагаловак публікацыі: «Незалежны часопіс праваслаўнае моладзі».

Зьмест нумару: вершы Зьніча (Алега Бембеля), выпіска зь дзёньніка Ул. Караткевіча, навіны зь Беларускай епархіі, малітва (з нотамі) да Жыровіцкай Божай Маці, пералік сьвятых зямлі Беларускай.

Часапіс падае, што ў 1988 г. у БССР было рукапакладзена 32 сьвятары й 14 дыяканаў. Адкрываецца Беларуская духоўная сэмінарыя пры Жыровіцкім манастыры. У Полацку зноў будзе існаваць жаночы манастыр Сьв. Еўфрасіньні.

Часапіс рэдагуе калегія (адрас не пададзены). У «Слове ад рэдактара» Страцілата сказана: «Погляд рэдакцыі: кожны Беларус павінен заняць прынцыповую пазыцыю ў справе вяртаньня народу яго храмаў — і праваслаўных, і каталіцкіх, і пратэстанцкіх, і яўрэйскіх і г.д.».

Газэта «Русская Мысль» (5.V.89), што выходзіць у Парыжы, падала выказваньні пратаіерэя Пятра Пралкіна зь Менскае епархіі, які сказаў, што «апошнім часам назіраецца рэлігійны і царкоўны ўздым жыцьця Беларусі».

## *РОСТ П'ЯНСТВА НА ПРАЦЫ*

«У рэспубліцы не скарачаюцца факты п'янства на вытворчасьці. За тры месяцы бягучага году за расьпіваньне сьпіртнога і перабываньне на працы ў нецьвярозы стане прыцягнута да адказнасьці блізу 6 тысячаў асобаў. Гэта на 4,3 працэнта больш за аналягічны пэрыяд леташняга году».

*(«Сов. Белоруссия», 15.IV.89)*

## НА ЛЁНДАНСКАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ

«Мова і атаесамляньне (Identity) у Беларусі» — тэма дакладу, які быў прачытаны др. Раманам Салчанікам (Амэрыканец украінскага паходжаньня), дырэктарам дасьледніцкага адзьдзелу радыё «Свабода» ў Мюнхэне, на канфэрэнцыі ў Лёндане. Канфэрэнцыя адбылася ў Лёнданскім Унівэрсытэце сёлета 30.III-3.IV на тэму «Дасучаснае і сучаснае нацыянальнае атаесамляньне ў Расеі, СССР і Ўсходняй Эўропе».

## *Ліст зь Ізраілю*

Шаноўныя сябры!

Дзякую за лісты. Таксама буду ўдзячны за беларускія кніжкі. Слоўнік, які я прасіў зь Мінску, беларуска-рускі, яго-ж мне, напэўна, «здабудуць» урэшце й прышлюць. Але-ж буду вельмі задаволены атрымаць таксама якінебудзь іншы беларускі слоўнік: беларуска-англійскі ці іншы — я наагул цікаўлюся мовазнаўствам. Хацеў-бы таксама людзям паказаць, што беларуская мова ня горшая за іншыя.

Гадавік «Запісы» мусіць быць вельмі цікавы, прышлеце, буду ўдзячны! Мяне-ж цікавіць гісторыя Беларусі, якая ў БССР амаль што й не вывучаецца. Памятаю, калі ў школе вывучалі пра Маскоўскую дзяржаву і Княства Літоўскае, я сказаў нешта пра Беларусь і што беларуская мова была дзяржаўнай моваю ў Княстве, дык настаўніца: «Адкуль гэта?» А я: «Прачытаў у 'Гісторыі БССР'». Але ў школе гэта ня вывучалася. Дарэчы, Яўрэі заўсёды жылі на Беларусі, таксама і ў вёсках, і жылі спакайней, чым у суседніх краінах. У гэтай сувязі прыгадваю смешны выпадак. Была ў Мінску лекцыя «Вецер с Востока». Прыйшлі на гэтую лекцыю некалькі беларускіх «нацыяналістаў» і таксама адзін мой сябар («сыяніст»). Ён і расказаў мне, як пасьля лекцыі ўстаў адзін зь «беларускіх нацыяналістаў» і запытаў лектара: «Паважаны таварыш Яўрэй! Ці ведаеце Вы, што калі Іван Грозны захапіў Палацак, дык ён усіх Яўрэяў патапіў у Дзьвіне? А да таго часу Яўрэі й Беларусы жылі як браты. Вось вам і «вецер з Усходу». Ну, вядома: Яўрэі-ж там заўсёды мусяць прапагандаваць «вялікага брата»!

Зь беларускай літаратуры люблю я вершы Купалы, Коласа, Багдановіча. Ёсьць у мяне некалькі кніжак, а хацеўбы я пачытаць што-небудзь з таго, што ў БССР забаронена. У газэце «Беларус» я чытаў самвыдавецкія матар'ялы з «Бурачка», вельмі цікава й хораша. Асабліва-ж памфлет «Смурод на нашым панадворку» пра нейкага Алеся Бажка, які змагаецца з «нацыяналізмам» і «плюецца г..ном». Вельмі трапна гэта!.. Я чытаў і ўяўляў сабе розных Драгунскіх і Верчыісаў, якія, нібы той кудла, брэшуць на «сыяністаў», на Ізраіль, на Яўрэяў у вольным сьвеце. Цікава, што сярод «кабздохаў», якія «змагаюцца» зь беларушчынай — і шалёны атнысэміт Уладзімір Бягун!

Пасылаю Вам артыкул з газэты «Moscow News» пра Курапаты. Сёньня ўжо можна там апавядаць пра гэтыя злачынствы, а што будзе заўтра — ніхто ня ведае...

Ну, дык усяго найлепшага, дарагія сябры. Буду ўдзячны за кнігі. Перадаў таксама й прывітаньне ад Вас маёй маці.

Да пабачэньня, шалом.

( — )

П. С.

Атрымаў нядаўна ад Вас зборнічак вершаў паэта зь Беларусі «Зьніча». Прачытаў гэтыя вершы з захапленьнем — яны простыя і філасофскія, адначасна гэта сапраўдная паэзія.

## АНТОН ЛУЦКЕВІЧ РЭГАБІЛІТАВАНЫ

Як падала газэта «Літаратура і Мастацтва» (28.IV.89), пракуратура Літоўскай ССР паведаміла Інстытуту літаратуры імя Я. Купалы, што крымінальная справа супраць Антона Луцкевіча была перагледжаная і Луцкевіч, на аснове заключэньня пракуратуры ЛітССР ад 31 сакавіка 1989 году, рэгабілітаваны. Луцкевіч быў арыштаваны 30 верасьня 1939 г. і высланы 14 чэрвеня 1941 г. ў канцлягер на 6 гадоў. Загінуў у часе адбываньня тэрміну пакараньня.

## *ІТАЛЬЯНСКІЯ ГАЗЭТЫ ПРА ДЭМАНСТРАЦЫЮ Ў МЕНСКУ*

Пра незалежніцкую дэманстрацыю ў Менску з нагоды 71-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР і арышт 21 дэманстранта («нацыяналісты») падалі з Масквы рымскія газэты Paese Sera, Il Mattino, Il Tempo, Il Messagero — усе за 31.III.1989.

## «БЕЛАРУСЬ» РАСКАЗВАЕ ПРА ДАНЧЫКА

«'Зорачкі' над Гудзонам» — пад гэткім загалоўкам красавіковы нумар часапісу «Беларусь» прысьвяціў дзьве ілюстраваныя фатаздымкамі старонкі друку гутарцы зь Леанідам Барткевічам, салістам Беларускага радыё й тэлебачаньня, які расказаў пра свае сустрэчы ў Нью-Ёрку з Данчыкам, пра новую кружэлку, якую яны разам з Данчыкам найгралі, паінфармаваў пра Данчыкаву сям'ю.

Гаворачы пра свой побыт у Амэрыцы, куды ён прыяжджаў разам із сваёй жонкай Вольгай Корбут, зоркай міжнароднага спорту, Леанід нагадаў, што амэрыканскі друк шырока пісаў пра ейны побыт — матар'ялы пра Вольгу зьмясьцілі часапісы «Лайф», «Спорт Ілюстрэйтэд» ды іншыя — ды што цяпер у ЗША больш за паўтары тысячы клюбаў Вольгі Корбут.

Хрыстына Лялько, якая вяла гутарку зь Леанідам, працытавала з калектыўнага ліста ў газэце «Літаратура і Мастацтва», зьмешчанага ў верасьні летась, у якім маладыя літаратары з Наваполацку пісалі: «прыезд Данчыка ў нашу рэспубліку мог-бы адыграць неацэнную ролю ў павышэньні прэстыжу беларускай культуры і роднай мовы».

## «СЛАВУТЫЯ ІМЁНЫ БЕЛАРУСІ

**Кірыла Тураўскі**

«Настаўніцкая газэта» (26.IV.89) пачала новую рубрыку «Славутыя імёны Беларусі» вялікім артыкулам В. Мікуты «Кірыла Тураўскі (1130 г. — каля 1182 г.)». У ўступным слове да рубрыкі пісьменьнік Ніл Гілевіч піша:

«У духоўным жыцьці грамадзтва. у самасьвядомасьці народу адбываюцца вялікія перамены, у сутнасьць якіх. апрача ўсяго іншага, уваходзіць і наша рашучае нежаданьне глядзець на сьвет і на стан рэчаў учарашнімі вачыма — праз шоры закасьнелых тэарэтычных і палітычных міфаў. Нарэшце мы шчыра прызналіся і людзям і — галоўнае — самым сабе, што вельмі дрэнна ведаем гісторыю роднага краю, сваёй любай Бацькаўшчыны, і адчулі ў душы сорам за гэтую маральную нехлямяжасьць і безгаспадарчасьць, і сказалі — голасна, гучна: будзем рабіць усё, каб папрaвiць становішча, каб не заслужыць пагарду нашчадкаў за тое, што былі Іванамі, якія ня помняць сваіх родных крэўных».

# АРХЕАЛЁГ ЛЕАНІД ПОБАЛЬ

**Да 65-х угодкаў жыцьця**

Леанід Побаль нарадзіўся 28 травеня 1924 г. ў вёсцы Мікалаева Іеўскага раёну Горадзенскай вобласьці. Вучыўся ён у наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, закончыў яе ў 1946 годзе ды паступіў у Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт на два факультэты адначасова — гістарычны і фізычнага ўзгадаваньня. Калі ў Побаля папыталіся, чаму ён хоча студыяваць фізкультуру, атрымалі адказ: «Я хачу быць археалёгам, а для гэтага трэба мець моцныя мускулы, каб змог рыдлёўкай перакапаць горы зямлі».

БДУ ён закончыў у 1951 годзе, доктарскую дысэртацыю абараніў у 1978 годзе і стаўся першым археалёгам беларускага паходжаньня з навуковым тытулам доктара гістарычных навук. Пасьля Л. Побаля атрымалі тытул доктара два беларускія археалёгі: Э. М. Загарульскі й Г. В. Штыхаў — у 1984 годзе. Беларускага паходжаньня археалёгаў з тытулам кандыдата гістарычных навук да 1986 году было 17 асобаў, а Беларусаў, што вывучалі археалёгію, у 1986 годзе было каля 40 асобаў. Мы шчыра зычым Я. Зьвяругу, П. Лысенку, М. Ткачову, М. Чарняўскаму, Я. Чарняўскаму, В. Ісаенку, О. Трусаву, О. Ляўку абараніць свае доктарскія дысэртацыі, каб пры АН БССР паўстаў самастойны інстытут археалёгіі.

Л. Побаль напісаў больш за 200 артыкулаў і апублікаваў іх у зборніках і часапісах беларускіх, расейскіх, украінскіх, літоўскіх, польскіх, чэхаславацкіх, нямецкіх і англамоўных. Апрацаваў шэсьць аб'ёмістых манаграфіяў, падрыхтаваў да друку сёмую — «Старажытнасьці Менскай зямлі».

Дзякуючы Л. Побалю й В. Наумаву ўстаноўлена, што знойдзеныя ў Быхаўскім раёне каля вёсак Адаменка й Тайманава бронзавыя лунніцы (мэталічныя ўпрыгожаньні) з выемчатымі эмальямі з II-V ст.ст. — рэчы мясцовага вырабу.

Паколькі існаваў пагляд, што Палесьсе ў старажытнасьці было слаба заселенае, Л. Побаль у 1961 годзе хадзіў зь вёскі ў вёску й апытываў старажылаў, аглядаў мясцовасьці з старасьвецкімі помнікамі. Як выявілася, вакол Турава знаходзіцца каля 50 старажытных помнікаў, што чакалі на археалёга. Пасьля агляду Тураўшчыны Л. Побаль выявіў у Бярэзінскім раёне Менскай вобл., паміж вёскамі Дулебы й Баравіца, 107 старажытных курганоў.

Не абмінуў вучоны і міжнародных археалягічных зьездаў. На кожным зь іх браў актыўны ўдзел, азнаямляў зь мінуўшчынай Беларусі, дасягненьнямі й праблемамі беларускай археалёгіі.

У травені сёлета доктару Л. Побалю споўнілася 65 год і мы з далёкай Амэрыкі зычым яму добрага здароўя, памыснасьці ў асабістым жыцьці, удалых археалягічных раскопаў, каб змог адшукаць карані нашай гісторыі.

**Міхась Белямук**

# 62-ГАДОВЫ БЕЛАРУС-МАРАТОНЕЦ




*Пётра Чайкоўскі пяць гадоў таму (з брытанскае газэты).*

Пётра Чайкоўскі з гораду Лідс у паўночнай Англіі ўдзельнічаў 23 красавіка ў маратонскім бегу ў Лёндане, дзе ўзяло ўдзел панад 30.000 спартоўцаў сьвету ды энтузіястаў гэтай штагодняй імпрэзы.

Сустрэўшы нашага земляка, даведваемся, што ён пачаў маратонскія бегі ў 1981 годзе пасьля пабыту ў шпіталі з прычыны завалу лёгкіх ад празьмернага курэньня (курыў ад 20 да 30 цыгарэтаў у дзень).

Паслухаўшы рады лекара, Пётра пакінуў курэньне ды пасьля трох год пачаў займацца бегамі, браў удзел у мясцовых бегах, а тады — і ў маратонскіх, у якіх здабыў 20 мэдалёў.

Кожны бег Пётра Чайкоўскі робіць з мэтай дапамогі дабрадзейным арганізацыям. За апошні бег на дыстанцыю 26 міляў, якую ён прабег за 3 гадз. і 40 хвілін ён спадзяецца зрэалізаваць ад 120 да 150 фунтаў на дапамогу галадаючым сьвету.

Пётра Чайкоўскі нарадзіўся ў вёсцы Выгалавічы пад мястэчкам Крывічы 20.9.1926 г., прыбыў у Англію ў 1946 годзе. Жанаты з Італьянкай, мае пяцёра дзяцей. Пару гадоў спачатку належаў да ЗБВБ. Працуе на інжынернай фабрыцы, што знаходзіцца пяць з палавінаю міляў ад дому. На працу ён штодня прыбывае бегам і гэтак-жа назад дамоў.

**А. Зданковіч**

# КАМП'ЮТЭРЫЗАЦЫЯ КІРЫЛІЧНЫХ КНІЖАК

7-9-га травеня ў гор. Урбане ў штаце Іліной адбылася канфэрэнцыя амэрыканскіх бібліятэкароў, прысьвечаная пераводу каталёгаў старых кірылічных друкаў, на камп'ютэр. У канфэрэнцыі бралі ўдзел сп-тва Зора й Вітаўт Кіпель. Сп-ня Зора Кіпель уваходзіць у кіраўніцтва гэтага ўсеамэрыканскага праекту. Ужыцьцяўленьне яго зойме каля дзесятка гадоў, але ў выніку ўсе кірылічныя друкі Амэрыкі, улучна з двума дзесяткамі тысячаў беларускіх кніжак, будуць даступныя на камп'ютэры.

*З жыцьця ў Адэйлядзе (Аўстралія)*

## ПІКНІК

У нядзелю 16-га красавіка адбыўся традыцыйны пікнік, арганізаваны парафіяй Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла. Памаліўшыся, прыхаджане паехалі ў Бонайтонскі парк. Некаторыя прыбылі туды адразу. Кожны прывёз з сабой ежу, пітво. Хоць надвор'е было пахмурнае, але даволі цёплае. Месца вельмі прыемнае: зялёная траўка, чыстае паветра, недалёка рэчка.

У вясёлай атмасфэры абмяркоўвалі розныя справы, а найбольш палажэньне й жыцьцё на Бацькаўшчыне-Беларусі, дзе адбываецца тая «перабудова». Што яна прынясе з сабой? Сорак гадоў па вайне мінула ўжо. Дакуль-жа гэта Беларусы будуць мучыцца там, ня могучы купіць таго, што чалавек патрабуе для штадзённага ўжытку?

Зь пікніку разьяжджаліся ў добрым настроі.

## РАЗМОВА ЗЬ ЗЯМЛЯЧКАЙ З БССР

*Пытаньне:* Скажэце, як ідзе перабудова, ці палепшала жыцьцё?

*Адказ:* Жыцьцё не палепшала, а пагоршала: старую сыстэму разбурылі, а новай ня могуць завесьці. Тавараў у магазынах няма, а калі ёсьць, дык дарагія, зарплата замалая (інжынер дастае 145 рублёў чыстымі). Памешканьне каштуе 17 рублёў, кілё мяса — 3 р. 40 капеек, маленькі кавалак мыла — 1 р. 40 к., памідоры, гуркі і іншыя прадукты з агароду — усё такое малое. Тое, што ў вас горшае якасьці, у нас — найлепшае. Яблыкі 2 р. 50 к. за кіляграм. Проста немагчыма жыць. Шмат людзей хварэе пасьля Чарнобыля.

Гасьця нашая гаварыла парасейску і ёй было проста дзіўна, што эміґранты за гэтульку часу не забыліся свае мовы.

**Ул. Акавіты**

# ПАМІНКІ ПА ДР. В. ЖУК-ГРЫШКЕВІЧУ

У нядзелю 16 красавіка ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронцe адбыліся памінкі па веч. пам. др. Вінцэнту Жук-Грышкевічу, які адыйшоў у вечнасьць на 87-м годзе жыцьця 14 лютага 1989 году. Народу сабралося шмат. Людзі зналі й памятаюць яго, як чалавека, што заўсёды быў у цэнтры беларускага жыцьця.

Па багаслужбе ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага малітвай Уладыкі Мікалая пачалася памінкавая бяседа. Кіраваў ёю заступнік Старшыні рады БНР др. Барыс Рагуля. Ён прадставіў кароткі нарыс жыцьця нябожчыка.

Сп. Кастусь Акула, закладчык Згуртаваньня Беларусаў Канады, падкрэсьліў тры этапы дзейнасьці сьв. пам. Вінцэнта Жук-Грышкевіча: першае — у 1946 г. ён заснаваў Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі; другое — у 1954 г. у Мюнхэне ён зарганізаваў Беларускую сэкцыю радыё «Вызваленьне»; трэцяе — ягоная дзейнасьць у Канадзе.

Вінцэнт Жук-Грышкевіч са сваёй прасталінейнай прынцыповасьцю, плянавасьцю, сказаў прамоўца, надаваў кірунак беларускаму арганізацыйнаму жыцьцю: ідэялягічны напрамак — вернасьць Акту 25 Сакавіка й Радзе БНР, рэлігійны — свая беларуская царква — БАПЦ.

Сп. Мікола Ганько, старшыня Таронтаўскага адздзелу ЗБК, гаварыў пра іншы аспэкт дзейнасьці нябожчыка — беларускае узгадаваньне моладзі. Стараньем др. В. Жук-Грышкевіча быў заснаваны пры Таронтаўскім Унівэрсытэце ў 1953 г. лектарат беларусаведы, дзе нябожчык быў лектарам. «У мяне было двох настаўнікаў — Вінцэнт Жук-Грышкевіч і Алесь Грыцук», — сказаў прамоўца.

Сп. Уладзімер Цялеш, старшыня Парафіяльнай Рады, гаварыў пра др. Жук-Грышкевіча як пра Старшыню Рады БНР, пра ягоны патрыятызм, адданасьць і ахвярную працу на карысьць беларускай вызвольнай справы.

Сп. Віктар Касьцюкевіч, сакратар Галоўнай Управы ЗБК, успамінаў нябожчыка, як сябру й напарніка праводжаньня летняга адпачынку на прыродзе. «Любіў і Ты, як я, блукаць па пералесках...» — успамінае пра яго Натальля Арсеньнева.

Жонка нябожчыка др. Раіса Жук-Грышкевіч прачытала верш Натальлі Арсеньневай «На сьмерць сябры юнацтва» (надрукавана ў № 358 «Беларуса») і ўрывак ліста вучаніцы нябожчыка зь Віленскай Беларускай гімназіі сп-ні Ніны Абрамчык, жонкі былога Старшыні Рады БНР Міколы Абрамчыка.

Др. Раіса Жук-Грышкевіч дзякавала ўсім тым, што аддалі пашану памяці дарагога ёй мужа.

Песьняй «Сьпі пад курганам герояў» і малітвай Уладыкі Мікалая закончыліся памінкі.

---

## ПАПРАЎКА ВЕРШУ

У папярэднім нумары «Беларуса» ў вершы Н. Арсеньневай «Малачай» была дапушчаная памылка (просім у Аўтаркі выбачэньня). Канцоўка вершу павінна чытацца, як ніжэй пададзена.

Стаю... ужо адна...
Скрозь — тае сьнег счарнелы,
Журчыць у раўчуку ручай...
Ну, што-ж, бывай!
Ужо мо' й там, дзе Ты,
тчэ парасткі нясьмела
прадвесьнік весьніх дзён —
зялёны малачай!

# «БЕЛАРУСКАМУ СЬВЕТУ» 35 ГОД

У горадзе Грэнд-Рэпідс у штаце Мішыган выдаецца часапіс «Беларускі Сьвет». Сёлета часапіс адзначае сваё 35-годзьдзе. Адрэзак часу не малы і для жыцьця чалавека, а для часапісу, дык і гістарычны кавалак!

Гэтае выданьне пачалося як невялікі бюлетэнь «Сьвет» з падзагалоўкам «Незалежны часапіс маладога пакаленьня». У рэдакцыйным артыкуле першага нумару (1954 г.) пісалася: «Выпускаючу часапіс 'Сьвет', рэдакцыя хоча пасадзіць на выдавецкую ніву дзейнасьці беларускае моладзі ў Злучаных Штатах новую кветку, якая можа хораша расьцьвісьці ды ўпрыгожыць нашую дзейнасьць на чужыне. Рэдакцыя будзе імкнуцца зьмяшчаць цікавыя матар'ялы ды павучальныя весткі з жыцьця й дзейнасьці маладога пакаленьня ў Амэрыцы».

Ад самага пачатку часапіс быў двумоўны: друкаваліся ў ім і матар'ялы англамоўныя, прадбачаючы, што маладое пакаленьне паступова будзе амэрыканізавацца.

Першыя пяць гадоў «Сьвет» быў якбы бюлетэнем маладзежнага жыцьця: давалася шмат хронікі, прапагандавалася дзейнасьць моладзі. Стала вялася старонка гумару.

З часам тыраж часапісу павялічаўся, станавілася больш падпішчыкаў і супрацоўнікаў. Ідучы напярэймы чытачом, «Сьвет» стаў зьмяшчаць больш літаратурных матар'ялаў, найбольш твораў эміґранцкіх пісьменьнікаў і паэтаў ды лепшыя перадрукі з Бацькаўшчыны.

На пачатку 60-х гадоў часапіс зьмяніў назоў на «Беларускі Сьвет» ды стаўся квартальнікам з шырокім гра-

*(Заканчэньне на 9-й б.)*

## «БЕЛАРУСКАМУ СЬВЕТУ» 35

(Заканчэньне зь 8-й б.)

мадзка-літаратурным дыяпазонам. Паасобныя нумары прысьвячаліся выдатным асобам беларускага руху, літаратуры, музыкі: Антону Луцкевічу, Равенскаму, Каханоўскаму, Кулікові-чу, Лёсіку ды іншым выдатным асобам.

Выдавецтва часапісу выдрукавала таксама і дадатковыя матар'ялы: альбом беларускіх арнамэнтаў, англамоўны бюлетэнь для моладзі і інш. «Кветачка», аб якой сьціпла пісалася ў перадавіцы першага нумару, сапраўды прыгожа расьцьвіла і дала чытачом шмат каштоўнага матар'ялу.

Часапіс «Беларускі Сьвет» можна знайсьці ў шмат якіх заходніх бібліятэках. Трапляе ён і на Бацькаўшчыну. За 35 гадоў свайго існаваньня часапіс шмат спрычыніўся да пашырэньня ведаў аб Беларусі. Выдатная тэхніка друкарства адчыніла яму дзьверы да шмат якіх выставак амэрыканскага этнічнага друку. Аднак, што бадай найважнейшае ў 35-гадовай гісторыі часапісу, дык гэта тое, што «Беларускі Сьвет» ад самага пачатку бязьзьменна рэдагуе й выдае ягоны заснавальнік сп. Мікола Прускі. Яму найбольш і належыцца найшчырэйшая падзяка ды найшырэйшая грамадзкае падтрыманьне, а ў фонд часапісу — шчодрая ахвяра.

Падаем гэтта адрас часапісу:

BYELORUSSIAN WORLD
1086 Forest Hills Ave. S.E.
Grand Rapids, MICH 49506

Жадаем Міколу Прускаму і «Беларускаму Сьвету» даўгіх і памысных гадоў!

**В. Зубкоўскі**



*Царскія ўлады не баяліся «Пагоні», якую Вы бачыце тут на сярэбраным мэдалі з напісам «В награду от Общества Витебских сельских хозяев». Савецкая-ж «народная» ўлада прыняла цяпер адмысловы закон, што забараняе тое, што мэдалі з «Пагоняй», а нават рысунак гэтага старадаўнага гэрбу на якой-небудзь публікацыі. Рэпрадукцыя зробленая з газэты «Советская Белоруссия», 8.1.89.*

## ПАДЗЯКА ЗА ПРЭСАВЫЯ МАТАР'ЯЛЫ

Рэдакцыі «Беларуса» прыслалі выразкі й копіі артыкулаў ды паведамленьняў, што датычаць Беларусі, наступныя асобы: Я. А.., М. Грэбень, В. Рамук, З. Смаршчок, В. Махнач, Л. Шурак, Я. Міхалюк, С. Карніловіч, В. Плескач, А. Непеін, А. Субота, Ул. Бакуновіч, Я. Чорны, Л. Паплаўскі, В. Мельяновіч, Ч. Найдзюк, К. Акула, Я. Мойсік, М. Раецкі, У. Акавіты.

Усім шчырая падзяка!

Просьба: прысылайце, калі ласка, толькі тыя матар'ялы, што беспасярэдня датычаць Беларусі ці беларускае справы.

**«Беларус»**

## «БССР У 1988 ГОДЗЕ»

Пад гэткім загалоўкам выйшаў у нямецкай мове агляд падзеяў у БССР у 1988 г., зроблены на аснове газэтаў «Советская Белоруссия», «Зьвязда» і «Літаратура і Мастацтва». Агляд (48 старонак уборыстага машынапіснага друку) мае разьдзелы: Партыя і дзяржава; Замежныя сувязі; Гаспадарка і прамысловасьць; Нутраная палітыка; Супраціў русыфікацыі; Быт. Да выданьня далучаны ліст кангрэсмэна Ўільяма Брумфільда да старшыні Беларускага Кангрэсавага К-ту І. Касака і рэзалюцыя Сусьветнай Антыкамуністычнай Лігі аб незалежнасьці Беларусі.

Выданьне добра апрацаванае і мае шмат карыснае інфармацыі. Звараччаца на адрас:

Weissruthenischer Arbeitskreis,
Bjelorus. Museum
Goethestr. 1, 6906 Leimen 3, W. Germany

## ІНВАЛІДЫ Й МІЛАСЭРДЗЕ

Да савецкай улады толькі нядаўна дайшло, што бязбожнасьць цягне за сабой «дэфіцыт дабрыні, жорсткасьць і бяздушнасьць, абыякавасьць да чужога гора». Пра наяўнасьць усіх гэтых заганаў сказаў нядаўна праф. Н. Саўчанка, які 20 гадоў быў міністрам аховы здароўя БССР і якога цяпер абралі за старшыню Беларускага адзьдзелу Савецкага Фонду Міласэрдзя й Здароўя. Гаворачы пра мэты й мэтады працы новае арганізацыі, Краўчанка сказаў, што Фонд Міласэрдзя разьлічвае таксама на супрацоўніцтва царквы і на «магчымае паступленьне замежнае валюты». У Менску адчыненае конта (№ 704901) у рэспубліканскім Жылсацбанку. («Сов. Бел.», 2.III.89).

Паводля газэты «Зьвязда» (15.III.89), у савецкай Беларусі налічваецца 300 тысячаў інвалідаў (гэта бяз уліку глухіх і сьляпых) ды «жывецца большасьці зь іх вельмі цяжка». «Дэфіцыт міласэрнасьці ў нашым грамадзтве, — піша «Зьвязда», — балюча б'е па гэтай групе людзей». Створанае нядаўна Беларускае Таварыства Інвалідаў мае аднак вялікія фінансавыя й матар'яльныя цяжкасьці. У гэткіх гарадох, як Ворша, Пінск, Баранавічы няма ніводнае штатнае адзінкі БелТІ, якая-б магла поўнасьцяй прысьвяціцца справе дапамогі.

«Зьвязда» падала да ведама міласэрных людзей і арганізацыяў бягучы рахунак у Апэрацыйным упраўленьні Белжылсацбанку г. Менску — 700866, на які будуць зьбірацца грошы. Адраса Цэнтральнае ўправы БелТІ: 220012, Менск, вул. Калініна, 7.

## ЗАПІСВАЙЦЕСЯ НА «СЬЦЯНУ ГОНАРУ»!

Кіраўніцтва Фундацыі Статуі Свабоды падае да ведама, што яшчэ можна зрабіць падарунак камунебудзь зь Беларусаў (сваякоў ці знаёмых), імя якіх можна запісаць (за датацыю 100 даляраў) на Сьцяне гонару Музэю Іміграntаў на Эліскім абтоку. Разам зь імём запісваецца таксама край пахаджаньня. Пры гэтай нагодзе выдаецца адмысловае пасьветчаньне, якое можа ўпрыгожыць сьцяну памешканьня таго, чыё імя будзе ўвекавечнена.

Па далейшую інфармацыю звaрачайцеся на адрас:

The Statue of Liberty
Ellis Island Foundation
P.O. Box Ellis
New York, N.Y. 10163
Tel.: (212) 883-1986

# МАТАР'ЯЛЫ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

### ПРАДМОВА

Беларускі Народны Фронт за перабудову «Адраджэньне» (БНФ) ствараецца дзеля арганізацыі шырокай народнай падтрымкі распачатых і ўзначаленых лепшыні сіламі КПСС радыкальных зьменаў ва ўсіх сфэрах грамадзкага жыцьця, забесьпячэньня на гэтай аснове незваротнасьці перабудовы, абуджэньня ініцыятывы, таленту, дэмакратычнай і нацыянальнай сьвядомасьці народу, абароны ад намаганьняў бюракратыі сарваць працэс абнаўленьня грамадзтва, затармазіць разьвіцьцё дэмакратыі і публічнасьці ў Рэспубліцы.

БНФ выступае за перабудову грамадзтва на прынцыпах дэмакратычнага сацыялізму, гуманізму і сацыяльнай справядлівасьці, за стварэньне прававой дзяржавы, за адраджэньне ленінскіх прынцыпаў нацыянальнай палітыкі, за рэальны сувэрэнітэт Беларусі, абвешчаны Канстытуцыяй БССР.

Беларускі Народны Фронт — гэта масавы грамадзка-палітычны рух, які бачыць сваю найвышэйшую мэту ва ўсталяваньні рэальнага народаўладзьдзя і адраджэньні беларускай нацыі.

БНФ дзейнічае ў межах Канстытуцыі БССР і аб'ядноўвае людзей незалежна ад іх сацыяльнага пахаджаньня і становішча, ад іх прафэсійнай, нацыянальнай, партыйнай і рэлігійнай прыналежнасьці.

БНФ прызнае самастойнасьць усіх грамадзкіх арганізацыяў Рэспублікі, выступае за кансалідацыю намаганьняў дзеля рэвалюцыйнага абнаўленьня і нацыянальнага адраджэньня Беларусі, а таксама за каардынацыю дзейнасьці Народных франтоў і рухаў за перабудову.

### СУВЭРЭНІТЭТ

Неад'емнае права кожнага народу — права самому вырашаць свой лёс, права на сувэрэннае дзяржаўнае існаваньне. Сувэрэнітэт Беларусі абвешчаны і ахоўваецца Канстытуцыяй Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і падмацоўваецца яе статусам члена-заснавальніка Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў.

Беларускі народ заваяваў і выпакутаваў права на сувэрэнную дзяржаўнасьць усім сваім гістарычным шляхам. Традыцыі дзяржаўнасьці Полацкага і Тураўскага княстваў, сувэрэнітэту Беларусі і Літвы, увасобленага ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім, традыцыі барацьбы за годнае існаваньне чалавека і народу — паўстаньняў Касьцюшкі, Каліноўскага, рэвалюцыяў 1905-1907 і 1917 гг. — усё гэта мела сваім лягічным вынікам самавызначэньне беларускай нацыі ў форме абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году, а потым — стварэньня сувэрэннай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі 1 студзеня 1919 году.

1. Сувэрэнітэт як нацыянальна-палітычны інстытут ёсьць непадзельнае адзінства нацыянальнага, дзяржаўнага і народнага сувэрэнітэтаў.

Нацыянальны сувэрэнітэт мае на ўвазе вяршэнства нацыі ў яе самавызначэньні. Воля беларускай нацыі выявілася ў стварэньні Беларускай ССР — нацыянальнай дзяржавы. БНФ зыходзіць менавіта з такога разуменьня БССР.

2. Дзяржаўны сувэрэнітэт мае на ўвазе незалежнасьць дзяржавы ва ўнутраных справах. Аднак сталінская практыка куртатай аўтаноміі, ператварэньня СССР у практычна ўнітарную дзяржаву зьнішчыла сувэрэнітэт Беларусі. БНФ «Адраджэньне» зыходзіць зь ленінскага разуменьня ССР як дабраахвотнага вайскова-палітычнага саюзу раўнапраўных і сувэрэнных дзяржаваў і лічыць, што для гарантаванага сувэрэнітэту саюзнай рэспублікі неабходна прызнаньне дагаворнага характару савецкай саюзнай дзяржаўнасьці. Сувэрэнітэт саюзных рэспублік — першасны, а сувэрэнітэт іх саюзу — другасны. Гэта значыць, што паўнамоцтвы Саюзу ССР павінны ажыцьцяўляцца толькі ў тых межах, у якіх перададзеныя яму саюзнымі рэспублікамі, а не наадварот. Таму БНФ выступае:

— за ўнармаваньне прынцыпаў узаемадачыненьняў суб'ектаў СССР — сувэрэнных рэспублік — шляхам распрацоўкі і прыняцьця новага Саюзнага дагавору, за фіксацыю ў Саюзным дагаворы выключнага пераліку паўнамоцтваў Саюзу ССР. Саюзны дагавор павінен заключацца пасьля прыняцьця рэспублікамі новых Канстытуцыяў;

— за каардынацыйныя функцыі саюзнага ўраду ў сфэры саюзна-рэспубліканскіх паўнамоцтваў; прамое і роўнае прадстаўніцтва кожнай рэспублікі ў саюзных органах, а таксама ў Камітэце канстытуцыйнага нагляду (Канстытуцыйным судзе СССР);

— за права вэта саюзнай рэспублікі пры вырашэньні агульнасаюзных пытаньняў, якія непасрэдна закранаюць яе інтарэсы;

— за вяршэнства законаў саюзнай рэспублікі на яе тэрыторыі;

— за дакладную юрыдычную фіксацыю грамадзянства саюзнай рэспублікі; за поўную гаспадарча-эканамічную самастойнасьць рэспублік у межах саюзнага, агульнаэўрапейскага і сусьветнага гаспадарча-эканамічнага комплексу і падзелу працы;

— за дакладныя юрыдычныя гарантыі выхаду са складу СССР, рашэньне пра які можа прыняць сэсія Вярхоўнага Савету рэспублікі ці рэспубліканскі рэфэрэндум.

3. Статус члена-заснавальніка ААН накладае на БССР абавязак захаваньня і ўмацаваньня сувэрэнітэту. У новай Канстытуцыі БССР неабходна раскрыць паняцьце сувэрэнітэту Рэспублікі і перагледзець артыкулы, што абмяжоўваюць яго ці яму пярэчаць.

Сувэрэнітэт мае на ўвазе незалежнасьць дзяржавы ў міжнародных зносінах. БССР павінна рэальна карыстацца сваім правам заключаць міжнародныя пагадненьні, мець пасольствы, консульствы, прадстаўніцтвы, карпункты, газэтаў, радыё, тэлебачаньня ў іншых краінах, саюзных рэспубліках, уваходзіць у міжнародныя арганізацыі, мець уласныя вайсковыя фармаваньні, што існавалі ў 20-30-я гады і права на якія было абвешчана ў папраўцы да Канстытуцыі рэспублікі, прынятай у часе ўтварэньня ААН і зьнятай у 1978 годзе.

Для рэалізацыі аптымальнай эканамічнай і культурнай палітыкі БССР павінна рэальна выкарыстоўваць магчымасьці, якія ёй дае членства ў спэцыялізаваных арганізацыях ААН. БССР як член ЮНЭСКО мае права весьці сувэрэнную культурную і адукацыйную палітыку. БССР як член Міжнароднага саюзу электрасувязі і Міжнароднай агранізацыі радыё і тэлебачаньня можа цалкам распараджацца сваімі тэле- і радыёканаламі. БССР як член Сусьветнага паштовага саюзу мае права выпускаць уласныя знакі паштовай аплаты. Членства ў ААН дае БССР права, калі гэтага запатрабуюць інтарэсы яе эканомікі, усту-

(Працяг на 10-й б.)

# МАТАР'ЯЛЫ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БНФ

*(Працяг зь 9-й б.)*

піць у Міжнародны Валютны Фонд і Міжнародны Банк Рэканструкцыі і Разьвіцьця; непасрэдна ўступіць у Міжнародны Алімпійскі Камітэт, у іншыя палітычныя, гаспадарчыя, навуковыя, экалягічныя, харытатыўныя, міратворчыя, маладзежныя міжнародныя арганізацыі.

4. БНФ надае асаблівае значэньне набыцьцю аўтаноміі ці самастойнасьці масавымі грамадзка-палітычнымі арганізацыямі БССР, што існуюць цяпер на правах рэгіянальных структураў адпаведных усесаюзных арганізацыяў.

5. БНФ лічыць, што БССР павінна замацаваць свой сувэрэнітэт Законам аб грамадзянстве БССР, які абараняў-бы правы і інтарэсы пастаянных жыхароў Рэспублікі, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасьці, рэгуляваў міграцыйныя працэсы з улікам эканамічных, сацыяльных, культурных патрэбаў і магчымасьцяў Беларусі, спрыяў тэрытарыяльнай аселасьці і духоваму адзінству нацыі. У аснову гэтага закону павінна быць пакладзена:

— прызнаньне грамадзянства БССР на падставе цэнзу аселасьці ў Рэспубліцы пры ўмове паступовага авалоданьня беларускай мовай;
— прызнаньне за грамадзянаў БССР усіх людзей, якія да прыняцьця Закону аб грамадзянстве БССР пастаянна жылі на тэрыторыі Рэспублікі;
— права ўраджэнцаў Беларусі ды іхніх нашчадкаў свабодна вяртацца на Радзіму і атрымоўваць грамадзянства;
— абарона Рэспублікай сваіх грамадзянаў, што знаходзяцца за яе межамі;
— прызнаньне роўнасьці правоў грамадзянаў БССР і іншых жыхароў Рэспублікі ва ўсім, акрамя права выбіраць і быць выбраным у савецкія і дзяржаўныя органы Рэспублікі, атрымліваць дзяржаўную кватэру, набываць нерухомую наёмасьць. Асобы, што жывуць на тэрыторыі БССР, але не зьяўляюцца яе грамадзянамі, павінны карыстацца грамадзянскай дзеяздольнасьцю той рэспублікі, краіны, адкуль яны выехалі.

## ДЭМАКРАТЫЯ. ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

1. Сувэрэнітэт дзяржавы грунтуецца на сувэрэнітэце народу — вяршэнстве яго ў вырашэньні найважнейшых пытаньняў свайго жыцьця.

БНФ зыходзіць зь пераемнасьці дэмакратычных традыцыяў на Беларусі — Полацкага веча, Магдэбургскага права для гарадоў, статутаў Вялікага Княства Літоўскага, паўстаньняў і рэвалюцыяў XIX і XX стагодзьдзяў.

БНФ бачыць гістарычную неабходнасьць у тым, каб забясьпечыць у БССР ажыцьцяўленьне народнага сувэрэнітэту, г.зн. фактычнай і юрыдычнай прыналежнасьці ўсёй дзяржаўнай улады народу, і разглядае гэта як сваю найважнейшую палітычную мэту. Адзіна канстытуцыйнай зьяўляецца ўлада Саветаў, якая атрымала паўнамоцтвы ад народу шляхам усеагульных, прамых, роўных, несфальсыфікаваных выбараў. Ніхто — ні палітычныя партыі, ні грамадзкія арганізацыі, ні асобы ня маюць права гаварыць ад імя ўсяго народу без законных на тое паўнамоцтваў. Усякая дзейнасьць, якая вядзецца ад імя дзяржавы, павінна знаходзіцца пад пільным кантролем народных дэпутатаў.

БНФ выступае за найшырэйшае разьвіцьцё прамых формаў дэмакратыі, у тым ліку за актыўнае выкарыстаньне рэфэрэндуму (усенароднага галасаваньня). БНФ выступае за прыняцьце Закону аб рэфэрэндуме. Ролю рэгулятара дзейнасьці дзяржавы і стымулятара прагрэсіўнага разьвіцьця грамадзтва рэфэрэндум можа выконваць, калі будзе забясьпечана:

— права на скліканьне рэфэрэндуму кожнаму грамадзяніну Рэспублікі, які зьбярэ ў сваю падтрымку вызначаную законам колькасьць галасу (подпісаў) надзеленых правам галасаваньня грамадзянаў Рэспублікі;
— забарона вынясеньня на рэфэрэндум тых праграмаў і законапраектаў, якія адмаўляюцца ці абмяжоўваюцца дэмакратычныя правы чалавека і грамадзяніна, прадугледжаныя Канстытуцыяй БССР і абвешчаныя ААН ва Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека. Закон аб рэфэрэндуме і зьмены ў ім павінны прымацца толькі на падставе вынікаў рэфэрэндуму.

2. БНФ выступае за поўную адпаведнасьць дзяржаўных органаў статусу агульнанароднай дзяржавы і лічыць, што гарантыяй гэтага зьяўляюцца:

— выбарнасьць на дзяржаўныя пасады;
— усеагульныя, прамыя, роўныя выбары (пры неабходнасьці — у некалькі тураў);
— роўныя правы для ўсіх працоўных калектываў і грамадзкіх арганізацыяў (у тым ліку царквы), групаў грамадзянаў, асобных грамадзянаў на высучэньне сваіх кандыдатаў; абвяшчэньне цяжкім злачынствам фальсыфікацыі на выбарах.

3. БНФ выступае за стварэньне прававой дзяржавы, у якой грамадзянін і дзяржава павінны несьці адказнасьць перад законам. Толькі закон, які адлюстроўвае волю і інтарэсы народу, які прыняты народнымі дэпутатамі БССР пасьля належнага абмеркаваньня ці зацьверджаны народам Беларусі ў ходзе рэфэрэндуму, можа вызначаць прававы статус асобы, палітычных, грамадзкіх і самадзейных арганізацыяў, кампэтэнцыю дзяржаўных органаў і адказных асобаў, БНФ выступае за вяршэнства закону ва ўсіх сфэрах жыцьця Рэспублікі. З гэтай мэтай БНФ лічыць неабходным:

— утварыць у БССР Канстытуцыйны суд, які-б меў паўнамоцтвы для адмены любых нарматыўных актаў у выпадку неадпаведнасьці іх Канстытуцыі і законам БССР. Калі, на думку Канстытуцыйнага суда, Канстытуцыі БССР не адпавядае рэспубліканскі ці саюзны закон, Канстытуцыйны суд павінен давесьці свой пункт гледжаньня да ведама Вярхоўнага Савету БССР, за якім застаецца апошняе слова!
— прыняць закон БССР аб парадку распрацоўкі і зацьверджаньня законаў БССР і падзаконных актаў;
— прыняць Закон БССР аб дзяржаўнай службе, які-б дакладна рэгуляваў дзейнасьць работнікаў дзяржапарату;
— забясьпечыць незалежнасьць суда як аднаго з цэнтральных элемэнтаў дзяржаўнага мэханізму, нераспаўсюджаньне на суды партыйных указаньняў;
— прыняць Закон аб палітычных і грамадзкіх арганізацыях, дзе вызначыць парадак іх рэгістрацыі, формы і мэтады дзейнасьці.

Вяршэнства права ў жыцьці грамадзтва прадугледжвае:

— адпаведнасьць прававых актаў агульначалавечай маралі і Ўсеагульнай дэклярацыі правоў чалавека;
— неадкладнае скасаваньне ўсіх нарматыўных актаў і законаў, якія абмяжоўваюць канстытуцыйныя свабоды;
— права кожнага грамадзяніна Рэспублікі падаць у суд на любога адказнага работніка, арганізацыю, ведамства, якія парушылі закон.

4. БНФ лічыць, што ніякая палітычная арганізацыя ня мае права на манапольную палітычную ўладу ў дзяржаве. БНФ лічыць, што Камуністычная партыя павінна заваёўваць рэальны аўтарытэт у грамадзтве пасьлядоўнай барацьбой за перабудову і дэмакратыю, а не замацаваным у гады застою шостым артыкулам Канстытуцыі лідэрствам.

5. БНФ канстатуе множнасьць сацыяльна-палітычных інтарэсаў розных групаў грамадзтва, поглядаў на шляхі сацыялістычнага будаўніцтва. Афармленьне выразных палітычных структураў: арганізацыяў, саюзаў, асацыяцыяў і г.д. — носьбітаў гэтых поглядаў — і адкрытая канструктыўная палеміка паміж імі, на думку БНФ — неабходная ўмова сапраўды дэмакратычнага грамадзкага ладу.

6. Разуменьне Беларускім Народным Фронтам правоў чалавека і грамадзяніна зыходзіць з агульначалавечых прынцыпаў гуманізму, замацаваных у звычаёвым праве, міжнародных дэклярацыях, пратаколах і пактах, у Канстытуцыі БССР.

БНФ бачыць грамадзяніна Беларусі чалавекам вольным, сьвядомым, пазбаўленым страху перад сваволяй чыноўніка, з пачуцьцём уласнай годнасьці, гаспадаром на сваёй зямлі.

БНФ дамагаецца рэальных юрыдычных гарантыяў правоў і свабодаў асобы, дэкляраваных адпаведнымі артыкуламі Канстытуцыі — свабоды слова, друку, сходаў, мітынгаў, вулічных шэсьцяў і дэманстрацыяў, права аб'ядноўвацца ў грамадзкія арганізацыі, свабоды веравызнаньня, недатыкальнасьці асобы, яе ўласнасьці і жытла, таямніцаў перапіскі, тэлефонных перагавораў і тэлеграфных паведамленьняў.

Правы на мітынгі, сходы і дэманстрацыі, на свабоду друкаванага слова, на стварэньне грамадзкіх арганізацыяў павінна ажыцьцяўляцца на падставе прынцыпу паведамленьня, а не дазволу. Адзінай падставай забароны грамадзкіх арганізацыяў можа быць толькі антыканстытуцыйны характар іх дзейнасьці.

Кожная грамадзкая арганізацыя, калектыў або асобныя грамадзяне, што дзейнічаюць у межах законнасьці, павінны мець права выпускаць пэрыядычныя выданьні або іншую друкаваную прадукцыю, арандаваць тэле- і радыёканалы, што гарантавалася-б свабодным доступам да друкарскай і памнажальнай тэхнікі, да тэле- і радыёвяшчальнай апаратуры.

БНФ патрабуе адмены папярэдняй цэнзуры. Аўтары павінны несьці адказнасьць за парушэньне закону аб друку, у якім трэба даць дакладны пералік усіх зьвестак, забароненых для друку, а таксама за прапаганду амаральнасьці, гвалту і варожасьці паміж людзьмі і народамі, за прыніжэньне чалавечай годнасьці.

Кожны грамадзянін павінен мець права пакідаць БССР і СССР на любы тэрмін і права бесьперашкодна вяртацца на Бацькаўшчыну, завязваць і падтрымліваць любыя формы прафэсійных і сяброўскіх сувязяў з грамадзянамі ўсіх краінаў сьвету, калі толькі такія сувязі не пярэчаць заканадаўству.

БНФ выступае за ўтварэньне спэцыяльнага органу Вярхоўнага Савету БССР — Камітэту па справах грамадзянаў, якія-б узначальваў упаўнаважаны Вярхоўнага Савету БССР. Названы Камітэт павінен наладзіць парлямэнцкі кантроль за станам захаваньня правоў грамадзянаў ва ўсіх сфэрах жыцьця Рэспублікі.

БНФ лічыць, што выбары судзьдзяў неабходна праводзіць прамым галасаваньнем, выступае за суд прысяжных, вылучаных з народу паводле прынцыпу выпадковасьці, з наступнай праверкай маральных якасьцяў. Неабходна падзяліць функцыі пракурорскага нагляду і дзяржаўнага абвінавачваньня. Кожны грамадзянін з моманту затрыманьня праваахоўнымі і сьледчымі органамі павінен мець права на адвакацкую дапамогу.

Павінен быць прынята Закон аб інфармацыі, у адпаведнасьці зь якім кожная асоба мае права атрымліваць поўную інфармацыю пра дзейнасьць усіх дзяржаўных органаў і ўстановаў, а таксама знаёміцца з усімі матар'яламі, сабранымі аб ёй дзяржаўнай установай, і абскардзіць дзеяньні апошняй у судзе, калі матар'ялы непраўдзівыя або сабраныя незаконным чынам.

Трэба прызнаць незаконнымі любыя формы перасьледу за перакананьні, заканадаўча, узмацніць адказнасьць за прыніжэньне чалавечай годнасьці, за беспадстаўнае прыпісваньне грамадзянам і арганізацыям неўласьцівых ім поглядаў, перакананьняў і выказваньняў.

БНФ падтрымлівае праект зьмены Асноваў крымінальнага заканадаўства Саюзу ССР і саюзных рэспублік у частцы, дзе прадугледжана адмаўленьне ад перасьледу за дзеяньні, пералічаныя ў артыкулах 67 («Антысавецкая агітацыя і прапаганда») і 168' («распаўсюджваньне заведама ілжывых вымыслаў, што няславяць савецкі дзяржаўны і грамадзкі лад») цяперашняга Крымінальнага кодэксу БССР. Гэтыя артыкулы выкарыстоўваюцца для пакараньня людзей за рэалізацыю свайго права на свабоду здабываньня і пашырэньня інфармацыі.

БНФ лічыць мэтазгодным адмяніць пакараньне сьмерцю, устанавіўшы за асабліва жорсткія злачынствы супраць чалавечнасьці пажыцьцёвае зьняволеньне.

Ніводзін грамадзянін БССР ня можа быць прымусова вывезены або высланы за межы Рэспублікі. Нельга дапускаць на яе тэрыторыю для адбыцьця пакараньня асуджаных у іншых рэспубліках — не грамадзянаў БССР. Папраўчыя ўстановы павінны рэальна спрыяць маральнай рэабілітацыі злачынцаў.

БНФ лічыць неабходным стварэньне пастаянных камісіяў Саветаў для кантролю за дзейнасьцю органаў МУС і КДБ.

Адзіная функцыя ўнутраных войскаў у БССР — ахова месцаў зьняволеньня.

БНФ патрабуе стварэньня спэцыяльнага структурнага падразьдзяленьня для барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю (мафіяй, рэкетам і г.д.) і жорсткага кантролю Саветаў і іх пастаянных камісіяў за працай МУС у гэтым кірунку.

Неабходна асудзіць сталінізм, як антысацыялістычную і антычалавечую зьяву, прыняць закон аб нераспаўсюджваньні тэрміну даўнасьці на злачынствы сталіністаў згодна канвэнцыі ААН ад 26 лістапада 1986 г., якая абвясьціла непрымяненьне тэрміну даўнасьці да злачынцаў, што ажыцьцяўлялі рэпрэсіі і генацыд; пазбавіць іх узнагародаў, пэрсанальных пэнсіяў і розных прывілеяў.

Неабходна правесьці поўную рэабілітацыю ўсіх пацярпелых у час сталінскіх беззаконьняў, кампэнсаваць ім і іх сем'ям маральныя і матар'яльныя страты, праводзіць у дачыненьні да іх спрыяльную сацыяльную палітыку, ушанаваць памяць бязьвінных ахвяраў.

Трэба стварыць усе ўмовы для вяртаньня на Бацькаўшчыну грамадзянаў БССР, калі-небудзь прымусова выселеных зь яе тэрыторыі; заахвочваць да вяртаньня грамадзянаў, якія пакінулі Беларусь па сацыяльных матывах.

БНФ лічыць, што ў інтарэсах гарманічнага разьвіцьця асобы і ўзаемадачыненьняў яе з грамадзтвам неабходна адмовіцца ў пэрспэктыве ад абавязковай ваеннай службы, замяніўшы яе пастаянным і эфэктыўным прафэсійным войскам, служба ў якім павінна пачынацца пасьля дасягненьня асобай больш сталага, чым цяпер, узросту. З больш сталага ўзросту павінен адбывацца набор навабранцаў на абавязковую вайсковую службу.

БНФ выступае за замену вайсковай службы працоўнай павіннасьцю для людзей, якія з маральна-этычных прынцыпаў ня могуць служыць у войску. Грамадзяне БССР павінны мець права за жаданьні праходзіць вайсковую службу на тэрыторыі сваёй Рэспублікі. Пэрыядычнасьць вайсковай перападрыхтоўкі павінна падлягаць прынцыпам публіч-

*(Працяг на 11-й б.)*

# МАТАР'ЯЛЫ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БНФ

*(Працяг зь 10-й б.)*

насьці і загадзя абвяшчацца грамадзянам і прадпрыемствам.

БНФ патрабуе апублікаваньня на беларускай мове масавым тыражом усіх міжнародных дакумэнтаў аб правох чалавека, падпісаных урадам БССР.

БНФ дамагаецца прызнаньня заканадаўчай ініцыятывы для грамадзкіх арганізацыяў, у тым ліку самога БНФ, і для групаў грамадзян.

## ЭКАНОМІКА

1. БНФ выступае за перабудову эканомікі Беларускай ССР такім чынам, каб яна служыла людзям, забясьпечвала максымальнае задавальненьне іх патрэбаў, павышэньне ўзроўню жыцьця. Асноўнымі прынцыпамі функцыянаваньня эканомікі павінны стаць: самарэгуляваньне і збалянсаванасьць, гуманізм і экалягічнасьць, сацыяльная справядлівась і свабода эканамічных паводзінаў.

2. БНФ зыходзіць з таго, што ў эканамічным разьвіцьці Савецкай Беларусі нароўні з пэўнымі посьпехамі маецца шэраг сур'ёзных дыспрапорцыяў і праблемаў. Удушлівы дыктат саюзных міністэрстваў і ведамстваў прывёў да неабгрунтаванага шматразовага апераджэньня росту прамысловасьці ў параўнаньні зь сельскай гаспадаркай і развіцьцём сацыяльнай сфэры. На мяжы вычарпаньня знаходзяцца традыцыйныя крыніцы рэсурсаў, рэзка абвастрылася экалягічная сытуацыя. Узровень зношанасьці вытворчых фондаў і тэхналягічная адсталасьць вытворчасьці дасягнулі пагрозьлівых памераў. Хранічна не забясьпечваецца збалянсаванасьць платаздольнага попыту насельніцтва з рэалізацыяй тавараў і паслугаў, што суправаджаецца ростам інфляцыі і кошту жыцьця. Абвастрылася забесьпячэньне прадуктамі харчаваньня. Зьнізілася працоўная актыўнасьць. Перабудова гаспадарчага мэханізму праводзіцца палавініста, непасьлядоўна і не дае адчувальных вынікаў, у тым ліку і з-за сабатажу бюракратычнага апарату.

На думку БНФ, асноўным шляхам вырашэньня набалелых праблемаў і росту спажываньня насельніцтва павінны стацьрадыкальная эканамічная рэформа, гаспадарчая самастойнасьць і поўная адказнасьць рэспублікі за сацыяльна-эканамічнае разьвіцьцё сваёй тэрыторыі.

3. БНФ лічыць, што інтарэсам нашай рэспублікі і народу больш за ўсё адпавядае эканамічная самастойнасьць Беларускай ССР, заснаваная на ўнутрысаюзным падзеле працы і на сувэрэнным праве БССР валодаць і распараджацца ўсімі відамі тэрытарыяльных рэсурсаў, а таксама сваёй уласнасьцю, у якую ўваходзяць усе прадпрыемствы рэспублікі, сыстэмы транспарту, сувязі, энэргетыкі, інфраструктура і г.д.

У кампэтэнцыю саюзнай рэспублікі ўваходзяць усе пытаньні, зьвязаныя з рэалізацыяй унутрырэспубліканскага гаспадарчага разьліку — цэнаўтварэньне, падаткавая палітыка, рэгуляваньне аплаты працы і сацыяльнага забесьпячэньня, грашовае абарачэньне і крэдытная сыстэма.

Аб'екты агульнасаюзнага характару (прадпрыемствы цяжкай і абароннай прамысловасьці і г.д.), што працуюць на прывознай сыравіне і забясьпечваюць агульнасаюзныя патрэбы, адносяцца да агульнай уласнасьці Саюзу ССР. Іх дзейнасьць рэгулюецца даўгатэрміновымі дагаворамі зь мясцовымі Саветамі і заканадаўствам.

Гандлёва-фінансавыя адносіны БССР з органамі СССР, саюзнымі рэспублікамі і замежнымі краінамі грунтуюцца на таварна-грашовых адносінах і гаспадарча-разьліковай (камэрцыйнай) мэтазгоднасьці, на прынцыпах добраахвотнасьці і раўнапраўя. БНФ патрабуе штогадова публікаваць поўны балянс усіх міжрэспубліканскіх і зьнешнегандлёвых паставак БССР у натуральным і грашовым выражэньні.

4. БНФ падтрымлівае **любыя формы ўласнасьці,** у тым ліку на сродкі вытворчасьці, каапэратыўную, індывідуальную, калі яны садзейнічаюць росту ўзроўню жыцьця народу.

Іх рацыянальнае спалучэньне зьяўляецца падставай гаспадарчага выкарыстаньня вытворчых сілаў, пэратварае чалавека ў сапраўднага гаспадара. Дзяржава ахоўвае ўсе формы сацыялістычнай уласнасьці і стварае ўмовы для яе прымнажэньня, стымулюе ініцыятыву і рызыку.

БНФ падтрымлівае перадачу дзяржаўных прадпрыемстваў у часовае карыстаньне на дагаворнай аснове або ў арэнду працоўным калектывам, грамадзкім арганізацыям і асобным грамадзянам.

5. Гаспадарчыя адзінкі (прадпрыемствы і аб'ядналньні) павінны дзейнічаць у адпаведнасьці з заканадаўствам і заключанымі дагаворамі. Пры гэтым яны могуць самі, зыходзячы з рыначнай каньюнктуры і эканамічнай мэтазгоднасьці, вызначаць намэнклатуру прадукцыі і паслугаў, цэны, тарыфы і аклады, пляняваць сваю дзейнасьць на падставе дагавораў са спажыўцамі і стану рынку. За вытворцамі (працоўнымі калектывамі) павінна быць замацаванае права распараджацца прадуктамі працы паводля свайго меркаваньня.

6. Эканамічныя сувязі паміж прадпрыемствамі, фірмамі і арганізацыямі рэалізуюцца на аснове дагавораў і эквівалентнага тавараабмену шляхам сацыялістычнага **плянава-рыначнага мэханізму.** Яны абапіраюцца выключна на таварнаграшовыя адносіны і гаспадарчаразьліковую выгаднасьць. Задача ўраду рэспублікі — стварыць у БССР такі рынак, на якім прапанова тавараў і паслугаў перавышае попыт. Урад БССР забясьпечвае зьяўленьне на рынку розных вытворцаў і нармальную канкурэнцыю паміж імі, змагаецца з манапалізацыяй вытворчасьці і спажываньня, не дапускае банкруцтва прадпрыемстваў, неабходных для грамадзтва. Дзяржзаказы за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту прадпрыемствы павінны атрымоўваць конкурсным шляхам (паколькі яны павінны быць больш выгодныя ім у параўнаньні зь іншымі кантрактамі).

Пераход рэспублікі на гаспадарчы разьлік прадугледжвае існаваньне шматканальнага аптовага гандлю сродкамі вытворчасьці, рынку тавараў народнага спажываньня і паслугаў, а таксама ўпарадкаваньне сыстэмы грашовага абарачэньня.

Таварна-грашовыя адносіны, разнастайнасьць формаў уласнасьці і эканамічная дэмакратыя адродзяць, як паказвае сусьветны вопыт, працаўніка-гаспадара і задаволяць спажыўца. Рынак ураўнаважыць попыт і прапанову, урэгулюе бягучыя прапорцыі, вызначыць патрэбы ў таварах і забясьпечыць эквівалентны тавараабмен.

7. **Кіраўнічыя органы рэспублікі** павінны адмовіцца ад загадна-бюракратычных мэтадаў кіраваньня, дырэктыўнага плянаваньня і дробязнай апекі дзейнасьці прадпрыемстваў.

Для вырашэньня агульных навукова-тэхнічных інфармацыйных, камэрцыйных і юрыдычных пытаньняў на базе зацікаўленасьці гаспадарчых адзінак і за іх кошт ствараюцца міністэрствы прамысловасьці, сельскай гаспадаркі і будаўніцтва. Гэтыя міністэрствы:

— дасьледуюць попыт і прапанову, дынаміку рыначных цэнаў;

— садзейнічаюць паскарэньню распрацоўкі і ўкараненьня передавых дасягненьняў навукі і тэхнікі, фінансуюць фундамэнтальныя навуковыя дасьледваньні на асноўных накірунках разьвіцьця эканомікі.

Дзяржплян БССР перабудоўваецца ў навуковаэканамічны цэнтр эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця. Гэты цэнтр:

— вызначае рубяжы плянавых паказчыкаў разьвіцьця рэспублікі, на якія, улічваючы канкрэтныя выгады, павінны арыентавацца прадпрыемствы;

— распрацоўвае варыянты структурнай і навукова-тэхнічнай палітыкі;

— вызначае прыярытэты ў выглядзе капітальных укладаньняў, ільготнага падаткаабкладаньня і субсыдый на галіны, разьвіцьцё і рост якіх па ацэнцы ўраду БССР зьяўляецца ключавым (галіны, якія вызначаюць навукова-тэхнічны прагрэс, сельская гаспадарка, турызм, арганізацыі, арыентаваныя на зьнешні рынак), але прыбытак, ад якіх можа зьнізіцца ў выніку рыначнай каньюнктуры;

— аналізуе эканамічнае, сацыяльнае і навуковатэхнічнае жыцьцё ў рэспубліцы, СССР, краінах сьвету;

— рыхтуе прагнозы навукова-тэхнічнага, дэмаграфічнага і сацыяльнага разьвіцьця.

Агульныя функцыі кіраваньня ў БССР зьдзяйсьняюць міністэрствы: фінансаў, гандлю, унутраных спраў, юстыцыі, замежных справаў, народнай адукацыі, культуры, аховы здароўя, працы і сацыяльнага забесьпячэньня, аховы прыроды і гістарычнай спадчыны, транспарту і сувязі, энэргетыкі, турызму і спорту. Асноўнымі рычагамі рэгуляваньня эканомікі Беларусі зьяўляюцца лімітныя цэны, падаткі і субсыдыі, якія выроўніваюць умовы вытворчасьці і спажываньня, падтрымліваюць эканамічную раўнавагу.

Кіраўнічыя органы рэспублікі павінны, акрамя гэтага:

— імкнуцца да стабілізацыі рынку і рэгуляваць рыначныя адносіны з мэтай іх большай адпаведнасьці інтарэсам рэспублікі;

— садзейнічаць пераадоленьню нераўнамернага эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця абласьцей і раёнаў Беларусі;

— распрацоўваць альтэрнатыўныя варыянты доўгатэрміновага сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця БССР і прадстаўляць іх на ўсенароднае абмеркаваньне.

8. **Галіновая і тэрытарыяльная структура эканомікі БССР** павінна адпавядаць рэальным магчымасьцям і патрэбам рэспублікі, а таксама ўлічваць гістарычныя, сацыяльна-дэмаграфічныя і экалягічныя асаблівасьці Беларусі.

Неабходна перапрафіляваць прамысловасьць рэспублікі такім чынам, каб яна арыентавалася на:

— навукаёмістую вытворчасьць;

— мясцовы навукова-тэхнічны патэнцыял;

— эфэктыўнае выкарыстаньне сыравінных і мясцовых працоўных рэсурсаў;

Дзяржбюджэт БССР, усе праекты будаўніцтва і рэканструкцыі прамысловых і будаўнічных аб'ектаў павінны ўсебакова абмяркоўвацца грамадзкасьцю пры дапамозе сродкаў масавай інфармацыі з тым, каб яны адпавядалі сучасным патрабаваньням.

9. БНФ падтрымлівае дэцэнтралізацыю і дэканцэнтрацыю эканомікі, у тым ліку раўнамернае тэрытарыяльнае расьсейваньне і стварэньне невялікіх прадпрыемстваў на базе буйных (пры ўмове каапэрацыі і магчымасьці дзяржаўнай падтрымкі).

Замест экстэнсыўнага нарошчваньня вытворчых магутнасьцяў у перанасычаных прамысловасьцю раёнах неабходна стымуляваць эканамічнае разьвіцьцё ўскраінаў і адсталых рэгіёнаў. Трэба ліквідаваць стратныя прадпрыемствы або пераўтварыць іх ў акцыянерныя ці каапэратыўныя.

Аб'яднаньні (трэсты, асацыяцыі і г.д.) могуць ствараца толькі па ініцыятыве эканамічна самастойных прадпрыемстваў і арганізацый і ўтрымоўвацца за іх кошт на долевых пачатках.

Неабходна прадставіць права працоўным калектывам пераходзіць на каапэратыўныя ўмовы дзейнасьці. Пасьля гэтага яны пазбаўляюцца падпарадкаваньня міністэрствам і ведамствам, становяцца самастойнымі, атрымліваюць рэальную магчымасьць пераходу на поўны гаспадарчы разьлік і іх дзейнасьць рэглямэнтуецца законам аб каапэрацыі.

10. **Рэспубліканскія і мясцовыя органы ўлады БССР** павінны ў асноўным вырашаць пытаньні разьвіцьця сацыяльнай інфраструктуры і аховы прыроды і культуры. Для гэтага ў рэспубліканскія і мясцовыя бюджэты павінна паступаць большая частка прыбытку прадпрыемстваў, а таксама плата за выкарыстаньне працоўных і прыродных рэсурсаў.

Пераразьмеркаваньне прыбыткаў забясьпечваецца сыстэмай прагрэсыўнага падаткаабкладаньня, якая ў той-жа час не павінна падрываць стымулы да працоўнай дзейнасьці і ўстанаўляць максымум (мяжу) заработку (што прывядзе на справе да ўхіленьня ад платы падаткаў і да адліву рабочай сілы з грамадзка важных сфэраў эканомікі).

11. Адлічэньньні ў саюзны бюджэт для выкананьня **агульнасаюзных** функцыяў (забесьпячэньне абароназдольнасьці Саюзу, адзіная зьнешняя палітыка, міжрэспубліканскія навукова-тэхнічныя праграмы) вызначае Вярхоўны Савет БССР у працэнтах ад нацыянальнага прыбытку рэспублікі. Беларуская ССР на долевых пачатках можа прымаць удзел у фінансаваньні агульнасаюзных і рэгіянальных праграмаў.

Каб пазбавіць бюракратыю эканамічнай базы панаваньня, неабходна **ліквідаваць саюзныя гаспадарчыя міністэрствы і ведамствы,** замяніўшы іх гаспадарчаразьлікковымі кансультатыўна-каардынацыйнымі камітэтамі, якія будуць выконваць функцыі:

— каардынацыі агульнасаюзных і рэгіянальных праграмаў эканамічнага разьвіцьця;

— камэрцыйнага прагназаваньня, вывучэньня попыту, прапановы і г.д.;

— правядзеньня скаардынаванай навукова-тэхнічнай палітыкі перападрыхтоўкі кадраў;

— каардынацыі зьнешнегандлёвай палітыкі;

— саюзнай інспэкцыі.

12. Прадпрыемствы, арганізацыі і гаспадаркі рэспублікі маюць права ўстанаўляць і падтрымліваць **прамыя эканамічныя сувязі** з партнэрамі зь іншых рэспублік СССР і замежных краін, ствараць сумесныя прадпрыемствы, весьці міжнародную камэрцыйную дзейнасьць. На зьмешаныя прадпрыемствы, што дзейнічаюць на тэрыторыі БССР, распаўсюджваюцца рэспубліканскія законы і міжнародныя пагадненьні.

13. У рэспубліцы павінны быць створаныя спрыяльныя ўмовы для інвэставаньня (укладаньня) замежнага капіталу для мадэрнізацыі вытворчасьці, запазычаньня перадавога вопыту кіраваньня вытворчасьцю і вядзеньня разнастайнай эканамічнай і навуковатэхнічнай дзейнасьці.

14. У Беларусі неабходна адкрыць рынак вольнага продажу і набыцьця замежнай валюты (валютны аўкцыён), які стварае прадпрыемствам, што ня маюць эканамічных сувязяў з замежнымі партнэрамі, крыніцу фінансаваньня для набыцьця неабходных сродкаў вытворчасьці, паслугаў і ліцэньзій. На зьнешнегандлёвае абарачэньне трэба ўвесьці рэспубліканскі падатак, які стане адной з крыніцаў паступленьня валюты.

15. **Зямля** зьяўляецца ўласнасьцю народу і знаходзіцца ў распараджэньні мясцовых Саветаў, якія павінны ахоўваць земляробаў ад любых спробаў дыктату і эканамічнага ўмяшаньня.

Існуючыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы па рашэньні іх працоўных калектываў могуць быць пераўтвораныя ў каапэратывы або фэрмэрскія гаспадаркі. Ім зямля прадстаўляецца ў **бястэрміновую** арэнду (бяз права продажу) з правам спадкаваньня (насьледваньня). Вярхоўны Савет БССР вызначае максымальны памер арэндаванай зямлі, а таксама верхнія межы зямельнага падатку і рэнты.

Арэнда можа быць спыненая:

— па жаданьні фэрмэра (у кожны момант);

— у выпадку выкарыстаньня зямлі не па прызначэньні на працягу некалькіх гадоў (па рашэньні сэсіі райсавету);

*(Заканчэньне на 12-й б.)*

# МІКОЛА КУЛІКОВІЧ-ШЧАГЛОЎ

**(1896—1969)**

*(Працяг; пачатак у № 358)*

На працягу наступных трох гадоў (1941-44) раёны Беларусі за лініяй баёвых дзеньняў карысталіся пэўнай аўтаноміяй ад акупацыйных уладаў. Быў дазвол на школы ды пэўную меру культурнае й рэлігійнае свабоды, пра штo нельга было й думаць пры сталінскіх рэпрэсіях. Пэўныя новыя магчымасьці займелі пісьменьнікі, музыкі й мастакі.

На працягу 1941-42 гадоў Куліковіч-Шчаглоў здолеў аднавіць сваё зьбіраньне песеннага й музычнага фальклёру, чаму не перашкаджалі ані фашысты, ані ранейшыя «ідэялягічныя вартасьці», а кіраваўся ён вылучна сваім патрыятычным энтузіязмам. У 1943 г. частка пладоў ягонае працы й досьледаў была апублікаваная ў Менску ў невялікай кніжцы пад заг. «Зборнік купальскіх і жніўных беларускіх песьняў», у якім былі паданыя аранжыроўкі гэткіх песьняў як «Ішла Купалка», «Васілёчак», Сяньня Купала, а заўтра Ян», «Ой, рана на Йвана», «А жнеце, жнеячкі» ды «А ў нас сяньня вайна была». Ён напісаў шэраг артыкулаў на музычныя тэмы для «Беларускай Газэты» і «Новага Шляху» пра Міхала Глінку, беларускага кампазытара XIX ст., пра беларускую музычную культуру Смаленшчыны, пра народныя інструмэнты ды іншае. Ён таксама заняўся ў Менску Тэатрам Эстрады, пішучы для яго лёгкую й гумарыстычную музыку.

У гэтым самым часе Куліковіч стварыў опэру на лібрэта добра ведамае паэтэсы Натальлі Арсеньневай «Лясное возера» — гісторыя трагічнага каханьня князя й сялянскай дзяўчыны. Гэта была першая беларуская опэра, створаная без умяшаньня бюракратычнае ідэялёгіі. Кампазытар зьвярнуўся ізноў да мінуўшчыны й да фальклёру свайго краю. Прэм'ера опэры адбылася 28 лютага 1943 году ў гістарычным Менскім Народным Тэатры і, незважаючы на цяжкія ваенныя абставіны, ішла колькі тыдняў ды перадавалася праз Менскае радыё. У вядучых ролях вступілі Д. Самохін і Ніна Бандарэнка. Опэра была высака ацэненая беларускімі й нямецкімі крытыкамі. Эдгар Грубэр адзначычў «багатую мэлёдыку й гарманічную паўніню партытуры, якая пры ўсіх сваіх сувязях з музычнай традыцыяй, застаецца сучаснай у найлепшым сэньсе гэтага слова». Алесь Карповіч таксама пісаў: «Аўтар нe проста 'цытуе' песьні, ён бярэ зь іх найбольш характэрныя музычныя інтанацыі, ён імкнецца прачуцца ў самую існасьць народнага песеннага матар'ялу».

Аднаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што была здушаная Саветамі ў 1922 годзе, натхніла кампазытара на рэфармаваньне беларускае царкоўнае музыкі, каб надаць ёй больш нацыянальнага характару. Дацэньваючы ўплыў народнае музыкі на старыя кіеўскія літургічныя сьпевы й малітвы «Багагласьніка», Куліковіч-Шчаглоў пачаў аналізаваць і разьдзяляць народныя мэлёдыі на складовыя часткі, «папеўкі», як сваім часам Кастальскі зрабіў з расейскім «знаменным» напевам, і выкарыстоўваць іх у літургічных кампазыцыях. Аднэй зь ягоных раньніх спробаў было выкарыстаньне мэлёдыі «Ці ня быстрая рэчка» для тэксту эўхарыстычнай малітвы «Милость мира», і гэтыя экспэрымэнты трывалі шмат гадоў, пакуль ён не дайшоў да ўдалага выніку.

Куліковіч заняўся таксама кампанаваньнем «мадэрных» танцавальных і песенных мэлёдыяў. У гэтай галіне, узбуджаючы патрыятычны энтузіязм моладзі, ён дасягнуў, бадай, найбольшае ўдачы, забясьпечыўшы сабе трывалае месца ў ацэнках сваіх суродзічаў. Ягоны «Юнацкі сьпеўнік», выдадзены ў Менску ў 1943 годзе Саюзам Беларускае Моладзі, разам з папулярнымі народнымі песьнямі ў апрацаваньні Туранкова, Мацісона й Равенскага, меў шэраг патрыятычных песьняў і рамансаў: «О, Беларусь, мая шыпшына», «У гушчарах», «Пагоня», «Ад родных ніў», што па сёньняшні дзень сьпяваюцца па цэлым сьвеце, дзе толькі сустракаюцца эмігранты.

У 1944 годзе, калі ўжо савецкія вайскі падыходзілі пад Менск, Куліковіч-Шчаглоў скончыў сваю найвыдатнейшую опэру «Усяслаў Чарадзей», ізноў-жа на лібрэта Натальлі Арсеньневай, зь дзеяй у далёкай гістарычнай мінуўшчыне. У сакавіку таго году ўжо было мала шанцаў на паказ опэры, але ейная прэм'ера была дадзеная праз Менскае радыё. Апавяданьне пра Полацкага князя, які, засумаваўшы па радзіме, адмаўляецца ад кіеўскага княжага пасаду, каб вярнуцца да сябе на Бацькаўшчыну, тя толькі было запярэчаньнем «супольнага змаганьня» Усходніх Славянаў — тэма Клімковічавай опэры «Кацярына» — а паказвала й на шуканьне кампазытарам нацыянальнае ідэнтыфікацыі для свайго народу, музыка якога, як Ліўшыц гэтак уніклівa зазначыў, сталася глыбокай арганічнай часткай ягонага творства. Пацьверджаньнем гэтаму служыць факт, што арыі з «Усяслава Чарадзея», гэткія як песьня Лады, сталіся ўлюбёнымі нумарамі ягонага канцэртнага рэпэртуару.

Ізноў нямецкія крытыкі былі ўражаныя «гэтым выдатным беларускім кампазытарам», імя якога «ўжо сталася канцэпцыяй» і якога можна было прыраўнаваць да Мусоргскага й Барадзіна. «На самой рэчы гэта зусім не народная опэра, як нехта можа лёгка падумаць, — пісала газэта «Minsker Zeitung». — Не, за ёй хаваецца сіла рытму, выразнасьць мэлядыйнай плыні, якая напамінае нам згадваных мастакоў. Тут адчуваецца жыцьцёвая сіла нацыі; усё ставіцца на ейную службу. А ў рэшце Шчаглоў застаецца ў рамках XIX стагодзьдзя, хоць опэра напоўненая сучаснымі танальнасьцямі... Мы маем дачыненьне тут з прыродным, паўнакроўным музыкам, які можа гучэць (як прыкладам, у арыі Лады) лірычна й задушэўна. Што да мэлёдыі, гармоніі й рытму, дык выкарыстаньне характэрных народных напеваў для стварэньня твору музычнага мастацтва тут вельмі ўдала разьвязана. Гэткая музыка будзе заўсёда даходзіць за сэрца слухачоў».

Апрача дзьвюх гэтых даўжэйшых кампазыцыяў, Куліковіч-Шчаглоў у супрацоўніцтве з Арсеньневай, напісаў прыемную апэрэту «З выраю», зь якое арыя Настулі карысталася пэўнай папулярнасьцяй.

Куліковічава адданасьць справе беларускага нацыянальнага адраджэньня няўхільна прывяла яго й да прыняцця ролі музычнага кіраўніка ў часе працы Другога Ўсебеларускага Кангрэсу, скліканага Беларускай Цэнтральнай Радай. Крок гэты вымагаў пэўнае адвагі з боку ўдзельнікаў Кангрэсу, пакольkі ў чэрвені 1944 году было ўжо ясна, што дзяржавы Восі пратрацілі вайну. Але бел-чырвона-белы сьцяг яшчэ ўсюды разьвяваўся, і патрэбная была бадзёрая патрыятычная песьня, якою Куліковіч-Шчаглоў выдатна валодаў.

Колькі дзён пазьней разам з Равенскім Куліковіч эвакуаваўся ў Нямеччыну. Туранкоў, паверыўшы ў абяцаную «партызанамі» бясьпеку, застаўся ў Менску чакаць вызваленьня: яго адразу-ж схапілі й выслалі ў канцэнтрацыйны лягер на Ўсход, дзе дзесяць гадоў няволі пакінулі яго з разьбітым здароўем.

*(Працяг у наступным нумары)*

**Гай Пікарда**

## У ЧАСАПІСЕ EXTENSION

Сакавіковы нумар каталіцкага часопісу Extension у артыкуле пра каталіцкія цэрквы ўсходняга абраду зьмясьціў фатаздымкі з царквы Хрыста Збаўцы, у тым ліку фатаграфію сп-ні Тэрэсы Тарасэвіч перад іконай ды а. Язэпа Сыру ў мамэньце хрышчэньня унучкі сп-ства Ганны і Нікадэма Жызьнеўскіх.

---

# МАТАР'ЯЛЫ ДА ПРАЕКТУ ПРАГРАМЫ БНФ

*(Працяг з 11-й б.)*

— пры неабходнасьці адводу арэндаванай зямлі пад грамадзкае будаўніцтва або здабычу карысных выкапняў. (Пры гэтым выканкам райсавету абавязаны са згоды селяніна выдзеліць яму зямлю ў іншым месцы з выплатай належнай кампэнсацыі паводля бягучых рыначных цэнаў: выкупіць пабудовы і збудаваньні, аплаціць шматгадовыя расьліны, выплаціць пад'ёмныя, аплаціць пераезд і г.д.)

Усе тыпы сельгаспрадпрыемстваў плоцяць у мясцовы бюджэт адзіны зямельны падатак, а таксама рэнту ў залежнасьці ад урадлівасьці глебы. Цэны на сельгаспрадукцыю вызначаюцца вытворцамі з улікам рыначнага попыту і прапановы.

16. БНФ дамагаецца **прыярытэту спажыўца** над вытворцам. Для абароны інтарэсаў спажыўцоў прапануюцца:

— стварыць Беларускае таварыства спажыўцоў;

— рэгулярна інфармаваць насельніцтва БССР аб узроўні якасьці тавараў народнага спажываньня;

— устанавіць крымінальную адказнасьць за вытворчасьць і рэалізацыю прадуктаў харчаваньня, якія ўтрымліваюць небясьпечныя для здароўя рэчывы, а таксама за вытворчасьць і рэалізацыю дэфэктных непрадуктовых тавараў.

Дзяржава павінна эканамічна (заахвочваючы канкурэнцыю) стымуляваць насычэньне рынку таварамі і не дапускаць неапраўданага вывазу дэфіцытных тавараў за межы рэспублікі.

17. За кошт пераразьмеркаваньня прыбыткаў неабходна тэрмінова **павысіць узровень жыцьця** працоўных, асабліва тых, хто ў выніку інфляцыі і перакосаў у аплаце працы апынуўся за «мяжой беднасьці». Павінен быць устаноўлены гарантаваны пражытковы мінімум, рэгулярна карэктаваны з улікам тэмпаў інфляцыі.

БНФ выступае супраць любой сацыяльнай няроўнасьці, даступнымі яму сродкамі змагаецца супраць выраджэньня працоўных адносін, прыніжэньня і эксплуатацыі чалавека.

18. Першапачатковымі задачамі ў сфэры эканомікі БНФ лічыць (паводля важнасьці і тэрмінаў вырашэньня):

— вырашэньне харчовай праблемы;

— пашырэньне вытворчасьці тавараў і паслугаў масавага попыту і першай неабходнасьці;

— вырашэньне жыльлёвага пытаньня ў цэлым;

— ліквідацыю дэфіцыту і чэргаў, г. зн. поўнае насычэньне попыту.

### ЭТЫКА І МАРАЛЬНАСЬЦЬ

Дасягненьні сацыяльнага прагрэсу і дэмакратыі магчымыя і маюць сэнс пры ўмове высокай маральнасьці грамадзтва і кожнага чалавека.

Часы панаваньня дзяржаўна ўзаконенага амаралізму спусташалі людзкія душы, пазбаўлялі іх пачуцьця чалавечай і нацыянальнай годнасьці, пачуцьця адказнасьці за свой час і свой народ. Сталінска-брэжнеўскі казармены сацыялізм пакінуў нам у спадчыну маральна-этычны крызіс грамадзтва. Абясцэніліся агульначалавечыя гуманістычныя каштоўнасьці, спрадвечныя нормы быцьця: пачуцьцё любові да бліжняга і ўсяго жывога на Зямлі, пашаны да бацькоў і старэйшых, да жанчыны, беражлівыя і годныя адносіны да дзіцяці, пачуцьцё сумленьня і дабра, граху і пакаяньня, міласэрнасьці. Блюзьнерская псэўдарэвалюцыйная канцэпцыя «класавага падыходу» да гэтых вартасьцяў нішчыла іх зьмест і чалавечнасьць.

У выніку панаваньня бюракраты над гэтак званай «агульнанароднай уласнасьцю» гублялася павага да сумленнай працы, любоў да зямлі, разбуралася пачуцьцё аселасьці, духовай повязі з роднымі мясьцінамі. Парушылася трываласьць сямейнага агмяню. Атрафіраваліся або напоўніліся фальшывым ідэялягізаваным зьместам такія сацыяльныя паняцьці, як салідарнасьць, еднасьць, ініцыятыўнасьць. Працьвітае, становіцца звыклым эгаізм, абыякавасьць, безгаспадарчасьць, гультайства. Пашыраюцца сацыяльныя хваробы — злачыннасьць, п'янства, наркаманія, прастытуцыя, бадзяжніцтва, брыдкаслоўе.

Матар'ялы падрыхтавала экспэртная група на чале зь сябрам Аргкамітэту БНФ «Адраджэньне», доктарам эканамічных навук Аляксандрам Жураўлёвым.

**Ад выдавецтва «Беларус»**

*Матар'ялы да праекту Праграмы БНФ «Адраджэньне» па надрукаваньні іх у «Беларусе» будуць выданыя асобнай брашурай для належнага пашырэньня. Самвыдавецтва цяпер у БССР забаронена законам. У жнівені-ж сёлета мае адбыцца ўстаноўны сход БНФ. Матар'ялы да праекту Праграмы патрэбныя для як мага шырэйшага іх абмеркаваньня грамадзтвам.*

*Прысылайце замоўленьні на брашуру. Цана: 1 дал.*